

Зянон Пазьняк. Менск. 1991 г. 22 жніўня. Мітынг супраць камуністычнага путчу ў СССР.

**ISBN: 978-83-935476-6-1**

БВТА

**Зянон Пазьняк. НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ (Да 25-годдзя Незалежнасьці Беларусі).** У кнізе апавядаецца аб дасягненьні дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі ў 1991 годзе, аб каштоўнасьцях незалежнай дзяржавы і аб абставінах у сьвеце, якія павінна ўлічваць будучая вольная Беларусь. (У дадатку кнігі выкарыстаныя новыя і апублікованыя раней фатаграфіі і дакуманты.)

Выданьне: "Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Амэрыцы", Нью-Ёрк, 2016 г. --114 с., іл. Папера афсэтная (фармат: US Trade 6x9 in). Наклад 200 ас.

ISBN: 978-83-935476-6-1

У кнізе выкарыстаныя фатаграфіі Уладзімера Кармілкіна

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

(Да 25-годдзя Незалежнасьці Беларусі)

Мінула 25 гадоў нашай дзяржаўнай Незалежнасьці. Мы імкнуліся да гэтага дня 200 гадоў. У змаганьні мы страцілі тысячы лепшых людзей народа. І вось яно сталася.

Гэта быў час вялікіх надзей. Людзі жылі будучыняй. Але ніхто не ўсьведамляў (амаль ніхто), што вайна, усходняя вайна супраць Беларусі, працягваецца. Пакаленьне, народжанае ў СССР з адбітай памяцьцю, ужо не разумела (амаль не разумела), што ардынская Расея – гэта ёсьць усечаны Савецкі Саюз, натуральны, сьмяртэльны і вечны вораг Беларускай нацыі. І нават калі людзям нагадалі, сказалі пра гэта адкрыта, наўпрост – ніхто (амаль ніхто) не зварухнуўся. Такое не мінае бяссьледна. Безабаронны не ўтрымае свабоду.

Адвечны вораг зайшоў у Беларусь знутры, радасна вітаны бяспамятным людам. Пачалася доўгая ліпкая ноч унутранай акупацыі, вынішчэньне беларускага, добрага, сьветлага, запанавала хамства, русіфікацыя і хамскі рэжым. Запанавала чужое. Але дзяржава ёсьць. А гэта абазначае, што лепшая будучыня ня страчана, што яна будзе, і трэба яе ствараць.

## Дэкларацыя

Рух за сабоду і Незалежнасьць уздымаўся ў Беларусі на працягу другой паловы 80-х гадоў. Вясной і летам 1988 года ўзьніклі народныя франты ў Эстоніі і Летуве. Яны сталі арганізацыйным узорам для беларускіх змагароў. Неўзабаве (у

кастрычніку гэтага ж года) былі створаныя Народны Фронт Латвіі і Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне". Тое стала вялікай падзеяй ў нашай гісторыі. Слова "суверэнітэт" было на вуснах, аднак у першы год існаваньня Фронту фронтаўцы абыходзіліся зь ім асьцярожна, каб заўчасна не наклікаць на беларусаў удар яшчэ моцнай (асабліва ў Беларусі) камуна-гэбоўскай машыны рэпрэсій, ціску і разбурэньня.

У жніўні 1989 года на Сойме БНФ было абмеркавана пытаньне Незалежнасьці як генэральнай мэты нашага руху. Але тады сьведама не прынялі яшчэ ніякіх афіцыйных рашэньняў і дакумантаў. Павінен быў сасьпець час. А ён рухаўся хутка. Энтузіязм фронтаўцаў і вольных людзей выяўляўся на кожным кроку.

У сакавіку 1990 года Летува аб'явіла аб сваім суверэнітэце. Вясной 1990-га адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі. Камуністычная прапаганда выкарыстала факт аб'яўленьня суверэнітэту Летувы супраць БНФ і распрапагандавала частку савецкага электарату. Ня ўсе кандыдаты Фронту трапілі ў парлямант.

Гэта быў час масавых мітынгаў і дэманстрацыяў. Беларусь няўхільна абуджалася. У канцы красавіка мы сабралі ў Менску першую канфэрэнцыю па Балта-Чарнаморскай Супольнасьці з удзелам прадстаўнікоў Беларусі, Украіны, Малдовы і Летувы. Быў прыняты інфармацыйны мэмарандум аб запачаткаваньні працэсу Балта-Чарнаморскай Супольнасьці на будучыню, калі дасягнем незалежнасьці ад СССР. (Другая Канфэрэнцыя БЧС адбылася ў Менску ў лістападзе гэтага ж года.)

Рэакцыя камуністычнага афіцыёзу была злоснай. Яны гэты факт заўважылі, зразумелі пагрозу для сябе і занепакоіліся.

У пачатку 90-х Народны Фронт палітычна ўмацаваўся, пасьля выбараў стварыў фракцыю БНФ у Вярхоўным Савеце. 11 траўня на Сойме БНФ быў дакумэнтальна прыняты афіцыйны курс Фронта на дасягненьне незалежнасьці краіны. Вырашылі склікаць ўсебеларускую канфэрэнцыю «Незалежная Беларусь». Канферэнцыя адбылася ў Менску у канцы траўня і ўхваліла курс на змаганьне за незалежнасьць. Сябры Фронта сталі рыхтаваць дэклярацыю аб незалежнасьці Беларусі.

Неўзабаве тэкст яе быў агучаны мной у Вярхоўным Савеце пры поўнай цішыні ў залі і, як мне здавалася, прастрацыі камуністычнай намэнклятуры, для якой нават замежнае слова "суверэнітэт" было незразумелым. Тым ня менш гром грымнуў. Пра неабходнасьць незалежнасьці Беларусі было аб'яўлена з трыбуны парляманту на ўсю краіну.

Камуністычныя дэпутаты тады дружна пахавалі наш незалежніцкі праект. Але неўзабаве (у выніку блытанай палітыкі Гарбачова) гэтую ж партыйную намэнклятуру абавязалі з Масквы прыняць фармальную (гэта значыць пустую) дэкларацыю аб суверэнітэце "рэспублікі", каб зьнівеляваць такім чынам контргарбачоўскія ініцыятывы Ельцына аб суверэнізацыі РСФСР. (Выглядала камічна, але гэтак у Маскве тады змагаліся за ўладу.)

Мушу зноў зьвярнуць увагу на асаблівую спэцыфічнасьць палітычнай дзейнасьці. У камуністычнай палітыцы (ня ў прыклад іншым галінам працы) наяўнасьць вялікай колькасьці "прававернага бэтону" у партыйных шэрагах магло разглядацца як кіруемы стратэгічны рэсурс, што вядзе да перамогі, а банальнае гультайства -- як "мудрая" тактыка барацьбы.

Сонная бээсэсэраўская намэнклятура на гарбачоўскія заклікі аб дэкларацыяйнай прафанацыі суверэнітэту вырашыла нічога не рабіць. У выніку ў адказных за прафанацыю (па абавязку службы) пачалася паніка, і яны ад безвыходнасьці зьвярнуліся за дапамогай... да нас (гэта значыць да парляманцкай Апазыцыі Народнага Фронта).

Мушу сказаць, што Вярхоўны Савет 12 скліканьня -- гэта быў унікальны парлямант. Падзеі, зьявы ды здарэньні там былі таксама ўнікальныя (без аналагаў у сьвеце).

Апазыцыя БНФ уключылася ў працу амаль што ўсім сваім складам, і ў выніку была прынята добрая Дэкларацыя, якая праз год, 25 Жніўня, паслужыла дакумэнтальнай асновай для легітымнага юрыдычнага зацьвярджэньня незалежнасьці Беларусі.

Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце ўдалося выдатна выкарыстаць, так бы мовячы, псіхалагічныя "родавыя слабасьці" савецкай намэнклятуры (пра што ўжо ня раз апісана раней), прытым аж настолькі, што яна (гэтая намэнклятура), узбуджаная, падтрымала нават прапанову прызнаць 27-ы ліпень Днём незалежнасьці Беларусі, выдатна разумеючы, што ўсё застаецца па-старому. Але, насуперак іхным спадзевам, па-старому не засталося. 25 Жніўня 1991 года Беларусь дамаглася Незалежнасьці. Пад ціскам Народнага Фронту і вольных людзей Беларусі савецкі легітымны Вярхоўны Савет надаў Дэкларацыі аб суверэнітэце статус канстытуцыйнага закону дзяржавы. Дзяржаўная Незалежнасьць Беларусі сталася.

Прыняцьце добрай Дэкларацыі аб суверэнітэце краіны стала патрэбным крокам да Незалежнасьці, аблегчыла яе дасягненьне, палітычнае і юрыдычнае афармленьне. Гэты Дзень прыняцьця Дэкларацыі (упэўнены) будуць сьвяткаваць у

вольнай Беларусі вольныя людзі побач з Днём Волі 25 Сакавіка і Днём Незалежнасьці 25 Жніўня, -- днём, калі Беларусь дамаглася рэальнай дзяржаўнай незалежнасьці і стала існаваць як паўнапраўная дзяржава міжнароднай супольнасьці.

## Камуністы

Са сьмерцю Сталіна ў 1953 годзе скончылася палітыка ГУЛАГу, масавых вывазаў і расстрэлаў людзей. Былі, праўда, усё ж яшчэ і спарадычныя вывазы, і расстрэлы (калі непаслухмяных рабочых расстрэльвалі з кулямётаў). Але гэта ўжо былі надзвычайныя меры, якія засакрэчвалі і трымалі ў таямніцы. Сістэмна Крэмль прыдумаў тады хіба што рэпрэсіўную псіхіятрыю (што для ахвяраў такой сістэмы гвалту было горш за ГУЛАГ).

Пасьля кароткай адлігі і эксцэнтрычнага самадурства Хрушчова пачалася брэжнеўская «эпоха застою». У 1978 годзе была прынята новая «брэжнеўская» канстытуцыя СССР, якая закнадаўча замацавала дзяржаваўладную ролю КПСС (кампартыя аб'яўлена кіроўнай дзяржаўнапалітычнай структурай, пануючай, «кіруючай і накіроўваючай». На ўсіх прадпрыемствах, ва ўсіх установах парткамы КПСС адыгрывалі ролю ўлады і адміністацыі. Нічога не вырашалася без парткамаў. Дыктатура КПСС была татальнай. Дзейнічала няпісанае «жалезнае» правіла: кіроўную пасаду, нават самую мінімальную (напрыклад, брыгадзір у калгасе, загадчык базы, заведуючы крамай, начальнік пачтовага аддзяленьня, загадчык аптэкі, завуч і дырэктар школы, загадчык навуковай лабараторыі, галоўны лекар шпіталю і г. д.) – літаральна ўсё, што прадугледжвала нейкае кіраўніцтва (хоць венікамі ды прыбіральшчыцамі) маглі займаць толькі камуністы. Некамуністы ня мелі ніякай сацыяльнай пэрспэктывы на актыўную ролю ў грамадзтве і на кар'ерны рост.

У выніку такога становішча актыўныя людзі, каб рэалізавацца ў сацыяльным жыцьці, сталі ўступаць у камуністычную партыю. Ужо ў сярэдзіне 60-х гадоў кампартыя ў Беларусі налічвала 600 тысячаў членаў (на 10 мільёнаў насельніцтва). Камуністычная партыя, практычна, перастала існаваць як палітычная партыя і ператварылася ў каставую бюракратычную надбудову, якая давала магчымасьць сацыяльнага і кар'ернага росту выбраным людзям.

## Намэнклятура

Узьнікла тэндэнцыя растварэньня кампартыі ў грамадзтве. Гэты працэс выклікаў далейшае каставае фармаваньне камуністычнай партыі і вылучыў жорстка акрэсьленую суму асобаў, якія займалі галоўныя кіроўныя пасады ў партыі і ў грамадзтве.

Утварылася так званая кіроўная камуністычная намэнклятура. Трапіўшы ў намэнклятуру, асоба пры любым раскладзе не выходзіла з гэтага кола (хіба толькі ў выніку нейкага выключнага надзвычайнага здарэньня). Кар'ерны рух быў толькі ўверх і па гарызанталі. Намэнклятура мела сваю сістэму забесьпячэньня, абслугу, свае схаваныя ад людзей крамы, базы, курорты, сваю сістэму льготаў, узнагародаў і пэнсійнага забесьпячэньня.

Намэнклятура ўвяла ліміты на ўступленьне ў камуністычную партыю. Найбольшы план даваўся рабочым, калгасьнікам, вайскоўцам і сілавым структурам. Найменшы – на інтэлігенцыю, дзеячоў навукі, мастацтва, для тэхнакратаў. Практычна, адсутнічаў план для студэнтаў (быў мізэрным). Прытым у КПСС адразу не прымалі, а толькі ў кандыдаты. Існаваў выпрабавальны тэрмін.

Нягледзячы на гэта кампартыя ўсяроўна інтэнсіўна разрасталася. (Улічым, што ніякіх іншых палітычных арганізацый у СССР, акрамя кампартыі і камсамола, не было і не магло быць.) Адначасна з растварэньнем КПСС у грамадзтве, узмацнялася і дыферэнцавалася намэнклятура. Сацыяльная нянавісьць да яе сярод людзей нарастала і была відавочнай нават сярод шэраговых трымальнікаў партыйных білетаў.

## Грамадзтва

Крах савецкай дзяржаўнай планавай эканомікі абвастрыў супярэчнасьці паміж грамадзтвам і намэнклятурай. У гэтых умовах пачалася гарбачоўская палітыка «перабудовы» як пошукі ўцяканьня ад катастрофы. Сярод камуністаў ніхто (уключаючы, відаць, і Гарбачова) толкам не разумеў, у чым сэнс палітыкі перабудовы. Відавочнымі былі толькі асноўныя палажэньні: захаваць уладу КПСС, захаваць СССР і прымусіць людзей эфэктыўна працаваць, даўшы ім крыху палітычнай і эканамічнай свабоды.

З гэтага нічога не атрымалася (і не магло атрымацца), бо СССР – гэта была каланіяльная джяржава. Прытым шмат якія

народы яе жылі на больш высокім курьтурным узроўні, чым расейцы. У такой каланіяльнай дзяржаве галоўным пытаньнем дэмакратыі ёсьць не эканоміка, не прыватная ўласнасьць, не правы чалавека і нават не сацыяльная свабода, а нацыянальная ідэя і дзяржаўная незалежнасьць. На гэтым (на недастатковым разуменьні нацыянальнага чыньніка) каланізатары і пагарэлі. СССР часткова разваліўся.

Асноўным канфліктам у гарбачоўскім СССР быў канфлікт паміж грамадзтвам і камуністычнай намэнклятурай, паміж нацыянальнымі «рэспублікамі» і савецкай Масквой.

У гэтай раскладцы асноўная частка камуністаў засталася пасіўнымі назіральнікамі; найбольш адукаваная, нацыянальна разьвітая і актыўная частка камуністаў выступіла супраць намэнклятуры, падтрымала дэмакратычны нацыянальны рух; меншая колькасьць партыйцаў падтрымлівала намэнклятуру.

Кампартыя (якая ненамэнклятура) ў часы перабудовы не засьведчыла сябе як моцная палітычная сіла, бо яна такой ужо не была. Яна выявіла рысы часткова палітызаванага грамадзтва, ня больш, выступаючы (актыўна і пасіўна) супраць камуністычнай верхавіны, гэта значыць – намэнклятуры, якая трымала ўладу ў дзяржаве (намэнклятура якраз і была бюракратычна-палітычнай сілай). Пытаньне пра камуністычную ідэалёгію ўвогуле не стаяла і не падымалася, бо ніхто сур'ёзна ўжо не ўспрымаў той камунізм, нават намэнклятура.

Жывым быў яшчэ толькі культ Леніна і абстрактнае паняцьце аб камуністычнай ідэі, якую, маўляў, «перакруцілі», «сказілі» ды «збочылі» камуністычныя кіраўнікі (гэта значыць ізноў жа – намэнклятура).

Нацыянальная ідэя разьвівалася ў БССР у 80-х гадах хуткімі тэмпамі на хвалі антыкамунізму, але за кароткі час яшчэ не дасягнула (і не магла дасягнуць) таго кансалідаванага ўзроўню, як, скажам, у Латвіі ці Эстоніі, і нават як у Грузіі ды Арменіі. Прычына – разрыў інфармацыі, зыход пакаленьняў, якія памяталі барацьбу за незалежнасьць і татальнае вынішчэньне эліты нацыі ў 20-х-50-х гадах.

## Народны Фронт

І тым ня менш Беларускі нацыянальны рух 80-х гадоў хутка і даволі сьпела аформіўся ў арганізацыйныя формы і рашуча заявіў пра сябе. Адразу выявіўся разрыў паміж нясьпелым ідэйна-палітычным узроўнем грамадзтва і ўдзельнікамі БНФ «Адраджэньне». У тых разбуральных умовах,

фактычна, на абломках і магілах нацыі, Фронт сфармаваўся як тыповы нацыянальны авангард, па якім няшчадна біла каланіяльная камуністычная прапаганда, выклікаючы мітусьню і сумяціцу ў галовах людзей.

Нацыянальнаму асьветніцтву і контрпрапагандзе Фронт прысьвяціў вялікую частку сваёй палітычнай працы. Яна была магутнай па аддачы, але ня хуткай па выніках, бо ўсе сродкі масавай інфармацыі былі ў руках намэнклятуры. І тым ня менш у тых умовах, абапіраючыся на ахвярную падтрымку вольных людзей, Народны Фронт схіліў шалі падзей на карысьць народу. Вольная Беларусь ужо віднелася на гарызоньце.

## Вярхоўны Савет

Найбольш эфэктыўна незалежніцкая палітыка Фронту выявілася ў Вярхоўным Савеце. Вярхоўны Савет 12-га скліканьня на 90 адсоткаў складаўся з камуністаў. Бальшыня зь іх была буйнай намэнклятурай – партыйная камуністычная верхавіна, кіраўнікі вобласьцяў ды раёнаў, дзяржаўных прадпрыемстваў, фабрык ды заводаў, 50 асобаў (згодна з савецкім заканадаўствам) зьяўляліся накіраванымі пардстаўнікамі ад Таварыства ветэранаў вайны і працы, Таварystваў сьляпых і глуханямых. Гэтая група, фактычна, ня мела легітымнасьці і выбарчых акруг, але карысталася дэпутацкімі мандатамі, была самай рэакцыйнай, коснай і беларусаненавіснай у Вярхоўным Савеце. Бальшыня зь іх – гэта былыя энкавэдзісты, сьмершаўцы, палітрукі і іншая акупацыйная навалач. Гэта, як правіла, былі гарантаваныя галасы супраць Народнага Фронту. Але невысокі інтэлектуальны ўзровень і адсутнасьць ведаў не дазволілі ім адыгрываць палітычную ролю ў Вярхоўным Савеце. Гэта была група непрабівальнага «бэтона», аб'ект кпінаў і іроніі з боку інтэлектуалаў.

Традыцыйна Вярхоўны Савет у БССР адыгрываў дэкаратыўную функцыю. Два разы на год дэпутаты (намэнклятура, даяркі ды токары-фрэзероўшчыкі) зьбіраліся на пару дзён на сэсію і прагаласоўвалі адзінагалосна дакументы, падрыхтаваныя Прэзыдыюмам і ЦК КПБ. Дыскусіяў не было. Атаварыўшыся ў спэцразьмеркавальніку, «дэпутаты» разьяжджаліся кожны на месца сваёй працы.

Па такому ж прынцыпу быў сабраны і Вярхоўны Савет 12-га скліканьня. Але гэта ўжо быў іншы час, у парляманце ўтварыліся «Апазыцыя БНФ, Дэмклуб, пачаліся дыскусіі,

прапановы, пасыпаліся праекты дэмакратычных законаў, падрыхтаваных фракцыяй Народнага Фронта.

Уся тая маса лянівай і сэрвільнай намэнклятуры раптам «уліпла» ў палітыку, якой ніколі не займалася. Натуральна, што энэргічная, спаяная інтэлектуальная група Народнага Фронта (27-30 дэпутатаў) здамінавала ўвесь гэты Вярхоўны Савет (345 дэпутатаў), прымусіла яго плысьці ў рэчышчы сваіх ідэй і распрацовак. Гэта была фэнамэнальная зьява. Фронтаўцы ўжывалі гнуткую творчую псіхалагічную парляманцкую тактыку і дамагаліся перамогі сваіх ідэй галасамі самых камуністаў, якія часам не арыентаваліся, за што галасуюць. Самы фантастычны вынік такой тактыкі і напору фронтаўскай Апазыцыі адбыўся якраз 25 жніўня 1991 года, калі галасамі камуністаў прымусілі іх спыніць дзейнасьць КПСС (гэта значыць пахаваць самых сябе).

У 1990-1991 гг. быў пік палітычнага ўздыму Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. З сярэдзіны 1992 года, калі супакоіліся «разборкі» ў Маскве, пачаўся наступ рэакцыі ў Беларусі, які прывёў у 1994 годзе да перадачы ўлады ў рукі прамаскоўскай крэатуры КГБ.

Каб змагацца з Масквой і ўладнай намэнклятурай за ўладу аднаго грамадзкага авангарду было замала. Час для перамены сьвядомасьці людзей быў вельмі кароткі, грамадзтва Беларусі не пасьпявала за яго вымогамі. У выніку вяртаўся «савок».

## Незалежнасьць

Пры гістарычным разглядзе, абапіраючыся на заканамернасьці гістарычнага жыцьця і пры рацыянальным аналізе зьявы, з гледзішча выніковасьці грамадзкіх працэсаў, прыходзім да высновы, што Дзень 25 Жніўня 1991 года (калі была аб'яўлена дзяржаўная незалежнасьць Беларусі) ёсьць **найвялікшым Днём і найвялікшай падзеяй ва ўсёй новай гісторыі беларускай нацыі за 200 гадоў падрасейскага існаваньня і барацьбы з Масквой.**

25-ы Сакавік 1918 года – Дзень аб'яўленьня незалежнасьці БНР – стаў першым рэальным крокам стварэньня незалежнай Беларускай дзяржавы, крокам, які быў засьведчаны на ўвесь сьвет. Сьцяг незалежнасьці быў падняты.

БНР не пасьпела рэалізавацца як дзяржава, бо праіснавала вельмі кароткі час і была акупавана войскам бальшавіцкай Расеі. Пэрыяд акупацыі характарызаваўся сатанінскім генацыдам беларускага народа, зьнішчэньнем

беларускай культуры, гістарычнай памяці і асноваў незалежнага дзяржаўнага думаньня беларусаў.

Адразу пасьля акупацыі (у піку БНР) акупанты падтрымалі стварэньне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Аналіз паказвае, што вышэйшымі коламі ў Маскве яна была выкарыстана як **правакацыйная магіла беларускай нацыі.** Стварэньне «савецкай рэспублікі», якая ня мела суверэнітэту і ніякіх правоў, дало магчымасьць Маскве выявіць, «выцягнуць» з грамадзтва і з-за мяжы беларускіх палітыкаў, дзеячоў, інтэлігенцыю, лакалізаваць іх у квазідзяржаўных рэспубліканскіх установах (ва ўладзе, у міністэрствах, у інстытутах навукі і г. д.) і потым планамерна ўсіх зьнішчыць, «састрыгчы» ўсю выяўленую маладую эліту нацыі, ліквідаваць яе цалкам. Мясарубка працягвалася рэшту 20-х, усе 30-я і 40-я гады (калі выкарысталі вайну зь немцамі дзеля працягу генацыду беларусаў). Удар быў катастрафічны. Зьнішчылі мільёны, амаль што кожнага трэцяга беларуса.

Пасьля вайны ўладу ў БССР цалкам перанялі кіруемыя з Масквы энкавэдзісцка-савецкія партызаны, якія ў час вайны шкодзілі немцам і адначасна працягвалі генацыд беларускага насельніцтва. Вышэйшае партызанскае кіраўніцтва абяскроўленай БССР было антыбеларускім і праіснавала, практычна, да канца 70-х гадоў. За гэты час яны ліквідавалі ўсе беларускія школы ў гарадах, сапсавалі экалогію і здэградавалі гідрасістэму Палесься, разбурылі беларускую вёску, заблякавалі беларускую мову ў грамадзтве, вытапталі ўсё, што было асэнсавана нацыянальным беларускім, што прарастала і імкнулася існаваць.

Ужо ў пачатку 80-х гадоў крэатура Масквы (а дакладней – агентура) ў Беларусі, у кампартыі (КПБ) і КГБ адкрыта радвалася і паўтарала: «Да бросьте, Белорусии больше нет». Крызіс адміністрацыйнай эканомікі, тупіковая палітыка СССР, што выявілася ў гэты час, відаць, адбілася крызісам у галовах яго ланцуговых сабак, бо праз кароткі час, у канцы 80-х гадоў, у беларускіх гарадах ужо крочылі дэманстрацыі Народнага Фронта, луналі Бел-Чырвона-Белыя сьцягі і грымеў кліч «Жыве Беларусь!».

Нішчыцелі пагрузіліся ў стан разгубленасьці і атупеньня, а «стратэгі сьмерці» з Лубянкі і Крамля – у прастрацыю. Вытаптаная імі Беларусь паўстала раптам амаль з попелу і, бліскуча скарыстаўшы мамэнт, здабыла дзяржаўную незалежнасьць.

Праз 200 гадоў маскоўскай акупацыі адбылося тое, пра што марылі вялікія розумы беларускай нацыі – **адбылася хуткая**

**перамога нацыянальнай ідэі.** Беларусь стала незалежнай поўнапраўнай дзяржавай, прызнанай усім сьветам, існуе вось ужо 25 гадаў як суб'ект міжнароднага права і міжнароднай супольнасьці, стала чыньнікам міжнароднай палітыкі. Гэта велічная перамога, дасягненьне, якой напаўняе радасьцю сэрца беларуса.

Трэба разьмяжоўваць здабыцьцё незалежнасьці і дасягненьне ўлады. Дзяржава Беларусь ёсьць. Яна існуе паўнапраўна як дзяржава вось ужо чвэрць стагоддзя. Тым ня менш існаваньне беларускага нацыянальнага грамадзтва тут непаўнавартаснае і трагічнае з той прычыны, што авангардовыя нацыянальна-дэмакратычныя сілы (у выніку яшчэ савецкай нескансалідаванасьці грамадзтва) не здабылі ўлады ў дзяржаве, якую прывялі да незалежнасьці. Масква здолела паставіць сваю крэатуру на вяршыню ўлады ў Беларусі, усталяваць дыктатуру і праводзіць цераз яе палітыку ўнутранай акупацыі краіны і вынішчэньня асноваў нацыянальнага існаваньня.

Гэта ёсьць нішто іншае, як працяг вечнай агрэсіі Масквы, вечнай вайны Маскоўшчыны супраць беларусаў. Але Беларуская дзяржава існуе і пакідае надзею на лепшае, на перамогу над ворагамі чалавецтва, бо кансалідацыя нацыі (няхай сабе нават вельмі павольным крокам) увесь час прадаўжаецца. Насуперак палітыцы антыбеларускай улады, павольна і спакваля фармуецца новая Беларуская нацыя.

Да 20-годдзя незалежнасьці Беларусі, якое ўсе вольныя беларусы сьвяткавалі ў 2011 годзе, мне ўдалося выдаць некалькі кніжак. Гэта найперш «Сэсія Незалежнасьці», дзе надрукавана стэнаграма нечарговай пятай сэсіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР 12-га скліканьня (24-25 жнівень 1991 год), таксама брашура «Незалежная Беларусь. Дваццаць гадоў» і кніжка «Дэпутаты Незалежнасьці» (тэксты падрыхтаваныя разам з Сяргеем Навумчыкам).

У выданьнях падрабязна апісана, як рыхтавалася і як адбывалася гістарычная Сэсія Незалежнасьці. Уражаньняў, працы і падзеяў у гэтыя дні было шмат, зафіксавана мноства цікавых дэталяў, якія характарызавалі ўзровень і напружаньне ў палітыцы таго часу. Усё гэта мае інтэрас і ня мусіць быць забытым, бо такія падзеі ня часта здараюцца ў гісторыі, і ня кожнае пакаленьне мае шчасьце перажываць іх сэнс. Таму, мяркую, гэтыя суб'ектыўныя рэфлексіі некалі варта будзе адзначыць дзеля вопыту і аналогіі.

Тады, гледзячы на маскоўскі камуністычны жнівеньскі путч (ГКЧП) 1991 года і на тое, як ён адбываецца, не ўзьнікала

сумненьня, што ён пратрывае ня больш, чым некалькі дзён, і скончыцца паразай гэкачэпістаў. Я пра гэта публічна казаў у тыя дні. Так яно і атрымалася. Шмат хто з нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, чакалі выступу мясцовай камуністычнай рэакцыі. Хітрая беларуская намэнклятура, аднак, так і ня выйшла на паверхню. Якраз і путч скончыўся. Але не выпадкова, што пасьля правалу путчу ў Маскве страх і жах паралізаваў тады іхныя сэрцы і розум.

Пасьля паразы путчу (22 жніўня) галоўным хваляваньнем для нас было тое, каб сабраць сэсію Вярхоўнага Савета не пазьней 24 жніўня. Мы разумелі, што праз некалькі дзён жах і страх намэнклятуры зьменшае, і тады стане цяжка на іх уплываць.

Другі момант – пасьпець падрыхтаваць пакет дакумантаў на сэсію. На гэта засталіся, практычна, толькі адны суткі. Працавалі ўсёй Апазыцыяй літаральна па хвілінах.

Трэцяе – правільна выбраць тактыку ў залі. Мяркую, што гэта ўдалося. Павінен быў быць наш разумны напор, ініцыятыва і націск пад кантролем (нельга было пераціснуць, каб ні разагнаць дэпутатаў, бо трэба было, каб Вярхоўны Савет прагаласаваў за незалежнасьць краіны). Дзеля падтрымкі гэтай тактыкі нам трэба было мінімум 50-60 тысячаў народу перад будынкам Вярхоўнага Савета (ідэальна – 100 тысяч). Быў кінуты кліч. Сабралася крыху менш, але дастаткова, каб нам мець апору дзеля рашучых дзеяньняў.

У залі на пачатку было вельмі важна сцьвердзіць прысутнасьць беларускага Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, прыняцьце нашага апазыцыйнага парадку дня і зьняцьце з пасады намэнклятурнага старшыні Вярхоўнага Савета М. Дземянцея (які, фактычна, сваім вычэкваньнем падтрымаў ГКЧП).

Усё гэта ўдалося з цяжкасьцямі і карэктыроўкамі. Важнай была правільная пасьлядоўнасьць і аргумэнтацыя ў дыскусіі, кулуарная дзейнасьць, кантакты з разгубленымі апанэнтамі. Ініцыятыва мусіла быць толькі наша. Ніякай іншай ініцыятывы нельга было дапусьціць. Сіла намэнклятуры была толькі ў галасах. Задача ставілася прымусіць іх галасаваць так, як нам трэба.

Перад намі стаялі дзьве важнейшыя мэты: незалежнасьць Беларусі і спыненьне дзейнасьці КПБ-КПСС.

Пераломны псіхалагічны момант утварыўся экспромтам, калі да трыбуны раптам, недзе збоку, пасунуўся Першы сакратар ЦК КПБ (адыёзная на той час істота) Анатоль Малафееў. Ён ня быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, але ўваходзіў у Вярхоўны Савет СССР і хацеў гэтым скарыстацца. На перахоп

яму кінулася ці ні палова Апазыцыі. Вядома, што нашыя беларусы – людзі стрыманыя нават у вострым канфлікце. Ніхто б да таго Малафеева не дакрануўся. Але ніхто ня быў упэўнены ў самім Малафееве. Ён мог бы павесьці сябе правакацыйна, фізічная сутычка абнізіла б узровень супроцьстаяньня. Беларусы ня любяць грубых паводзінаў. І тут выдатна вырашыла сытуацыю Галіна Сямдзянава, стаўшы наперарэз Малафееву і засланіўшы трыбуну. Па беларускай няпісанай этыцы мужчына ня можа штурхаць (тым больш ударыць) жанчыну. Калі б Малафееў такое зрабіў – яму быў бы канец. Гэта поўнае маральнае падзеньне. Малафееў адступіў.

На намэнклятуру ў залі інцыдэнт падзейнічаў крайне прыгнятальна. Першы сакратар ЦК КПБ успрымаўся імі як божышча, надпрыродная істота, якой нельга пярэчыць, для якой усё магчыма, перад якой усе схіляюцца. А тут яго проста пагналі з трыбуны, як цюцьку, ня даўшы нават адчыніць рот. Намэнклятура заламалася. Яны зразумелі, што ніхто іх не абароніць, і трэба ратавацца самым.

Скончылася гэтая іхняя псіхалагічная паніка тым, што мы дамагліся спыненьня дзейнасьці КПБ-КПСС у Беларусі іхнымі ж камуністычнымі галасамі. Мы растлумачылі сытуацыю і паставілі іх у такія ўмовы, што яны, камуністы, самы прагаласавалі за фактычны канец сваёй камуністычнай партыі. Унікальная зьява.

Жорстка і вязка ішла дыскусія пра незалежнасьць. Параза камуністаў у справе існаваньня КПСС аблегчыла нашу задачу. Мы даводзілі, што цяпер іншай дарогі, як да незалежнасьці і суверэнітэту, у Беларусі няма. Трэба сьпяшацца і скарыстаць момант, пакуль Масква занятая сама сабой. Усе астатнія шляхі дрэнныя.

Першым зарыентаваўся і здаўся прэм'ер-міністар Кебіч. Апошнім – Шушкевіч, які зьдзівіў усіх (верагодна, нават камуністаў) сваім упартым непрыняцьцем незалежнасьці Беларусі і чапляньнем за ўжо мёртвую ў гэты час гарбачоўскую «новаагароўскую» ідэю аб новым саюзным дагаворы і працягу СССР.

Калі падышлі да галасаваньня за незалежнасьць, я адчуў, што перамога, магчыма, будзе наша, але не аднагалосна. Пры тым неабходна была канстытуцыйная бальшыня (2/3 галасоў), трэба было яе набраць адразу і не дапусьціць паўторных галасаваньняў. Гэта нядобра ў такой справе. Ідэальна, каб прагаласавалі адзінагалосна. Упэўненасьці не было нават у тым, што прагаласуе канстытуцыйная большасьць. Стан быў трывожны. Нявызначанасьць у залі я адчуў, як кажуць, духам

сваім. Калі ўжо ставілі на галасаваньне, ў апошні момант я хутка падыйшоў да мікрафона ў залі, атрымаў слова і выступіў, як кажуць у такіх выпадках, пад заслону.

Уласна кажучы, я сказаў тое, што існавала ў рэальнасьці і пра што мы, фронтаўцы, ведалі, але не агучвалі з тактычных меркаваньняў, каб напоўніцу скарыстаць маскоўскую барацьбу за ўладу паміж Гарбачовым ды Ельцыным і не настроіць іх супраць нас, беларусаў. Тут жа цяпер у залі вырашаўся лёс Беларусі, і прышлося выкласьці калі ня ўсё, то самае галоўнае, што так званая «дэмакратыя» Ельцына – гэта блеф і толькі мэтад вайны за ўладу з Гарбачовым, што за гэтай маскоўскай «дэмакратыяй» стаіць звычайны расейскі імпэрыялізм, што Расея па вызначэньні ніколі ня будзе дэмакратычнай краінай, і калі мы цяпер, усе беларусы, ад іх не адмяжуемся, то будзе блага ўсім: і камуністам, і не камуністам. Нас уцягнуць у расейскі вэрхал і пачнуць лічыць па галовах. Нікому ня трэба спадзявацца на Ельцына. (А Ельцын на той час для так званых кніжных «дэмакратаў» быў бадай што сьвятым.)

Я ведаў, што камуністы БССР баяцца адказнасьці за ГКЧП, баяцца расправы з Масквы з боку Ельцына. Цяперака раскрыцьцё картаў пра сутнасьць ельцынаўскай палітыкі мусіла б зрушыць камуністаў зь нерухомай кропкі нявызначанасьці, мусіла б дапамагчы ім зразумець, што незалежная дзяржава – выгадная справа для ўсіх грамадзян Беларусі (у тым ліку і для намэнклятуры).

У залі панавала мёртвая цішыня. Відаць было, што камуністаў, дэпутатаў намэнклятуры праняло. Гэта была добрая прыкмета. Дурнавата выглядалі толькі некаторыя «пушыстыя» дэмакраты, якія ўспрымалі расейскую дэмагогію пра дэмакратыю за чыстую манету. Яны былі разгубленыя і круцілі галовамі – пакрыўдзілі іхную «сьвятую карову» Ельцына.

Калі ўстаў Другі сакратар Гомельскага абкаму КПБ Міхаіл Мачуленка, які меў аўтарытэт у намэнклятуры, і падтрымаў маю прапанову галасаваць за незалежнасьць, стала зразумела, што ўсё -- перамога за намі. Адзін за адным сталі выступаць былыя партыйныя кіраўнікі, падтрымліваючы незалежнасьць Беларусі, а Першы сакратар Ваўкавыскага райкама КПБ Міхаіл Жэбрак (які ў дні ГКЧП абяцаў нас усіх расстраляць) выступіў з катэгарычным патрабаваньнем падтрымаць «прапановы Зянона Станісла-вавіча». Дадам тлумачэньне. Тут такі «тонкі» стыль партыйнай бюракратыі, маўляў, ён прапануе падтрымаць не ідэю (не называе яе), а «прапановы» асобы. Такая вось «чароўная

прывабнасьць намэнклятуры». Але сутнасьці тое ўжо не зьмяняла.

У 20 гадзін 12 хвілін 25 Жніўня 1991 года адбылося галасаваньне за незалежнасьць Беларусі. Зарэгістравалася 265 дэпутатаў. Прагаласавала «за» -- 256, «супраць» – 0, «устрымаліся» – 0, не галасавалі – 9.

«Віншую вас, паважаныя народныя дэпутаты, – кажа вядучы паседжаньня сэсіі, – віншую вас, жыхары Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі! (Адраджэнец сказаў бы ўжо проста – «Беларусі».) Закон прыняты.»

У залі ўзьнік незвычайны ўздым, шмат якія дэпутаты абдымаліся, чуліся радасныя воклічы.

Калі мы выйшлі на вуліцу, было ўжо цёмна, гарэлі паходні з газэт, людзі гукалі «Жыве Беларусь!», махалі сьцягамі, гучэлі песьні. Запомніўся Пётра Садоўскі, які стоячы на памосьце (зь якога мы ўсе выступалі днём перад людзьмі), апантана, да самазабыцьця сьпяваў народную песьню. У многіх на вачах былі сьлёзы. Людзі абымаліся і плакалі ад радасьці.

За ўсё маё жыцьцё па сёньняшні дзень, я не адчуваў нічога падобнага ў душы. І мяркую, ня толькі я. Было такое ўражаньне, што мы выйшлі з залі з будынку Вярхоўнага Савета і трапілі ўжо ў іншы сьвет, які перамяніўся. Адчуваньне незвычайнага шчасьця, якога я да гэтага не адчуваў ніколі, агарнула істоту, горача падкатвала пад самае горла. Вакол, здавалася, былі ўжо іншыя дамы, дрэвы, слупы, ліхтары і трава. Па-іншаму пахла паветра, паветра свабоды, і ўсё навокал было сваё.

Тут узьнікаюць рэфлексіі, якія некаторым цяперашнім людзям, магчыма, непатрэбныя і нецікавыя. Хаця часам трэба сказаць пра іх самому сабе, бо сьвет зьмяняецца. На месца цёмнага прыходзіць сьветлае, і ўсё працягваецца.

Я ўдзячны Богу за сваё жыцьцё. Маё дзяцінства і юнацтва адбылося ў родным беларускім асяроддзі, дзе не было нічога савецкага і ніякай расейшчыны. І ўсё савецкае, якое зьяўлялася, потым, як кароста, мы адрыналі, каб не псаваць душы. Саветчына прыкметна пачала засьмечваць нашае жыцьцё з другой паловы 50-х гадоў, калі зьявілася тэлебачаньне, і сельскія людзі паехалі ў гарады і адсеклася Вільня. Яна стала рабіцца чужой.

У 1963 годзе, будучы студэнтамі самага вальнадумнага на той час Беларускага Дзяржаўнага Тэатральна-Мастацкага Інстытута (цяперашняя Акадэмія Мастацтва) мы сядзелі ў студэцкім пакоі з мастаком Лявонам Баразном, глядзелі ў

адчыненае вакно, праз якое быў відаць на небе белы сьлед чужога рэактыўнага бамбавіка. Мы малявалі на лістах Пагоню і ўголас марылі пра незалежнасьць Беларусі. Пра гэта мы маглі казаць толькі паміж сабой, бо савецкія студэнты такога ўжо не разумелі. Ім здавалася, што такое «невозможно».

У 1972 годзе 15-га жніўня Лявона забілі кагэбісты. Але людзей, якія ня толькі марылі пра вольную Бацькаўшчыну, але і працавалі дзеля яе свабоды, стала больш.

Гэта я ўсё ўспамінаю дзеля ацэнкі шчасьця, якое выпала ўсім, але перажывалася па-рознаму. Для людзей, у якіх зь юнацтва жыла мара аб вольнай Беларусі, якія працавалі на яе, набліжалі, ажыцьцяўленьне яе стала катарсісам, прасьвятленьнем душы, шчасьцем амаль нябесным, усьведамленьнем плёну свайго жыцьця і працы, перажываньнем дасягнутай мэты.

Тым часам для некаторых асоб, якія ніколі ня думалі пра свабоду і вольную Беларусь, якім нічога не было вядома, што робіцца і што рабілася дзеля гэтай мэты, якія ня чулі ні пра ахвяры, ні пра пакуты, для іх – незалежнасьць стала прыемнай неспадзяванкай, і яны думалі, што ўсё яно звалілася ім на галаву зь неба. Бо не чуваць было стрэлаў, не лілася кроў. Некаторыя наіўныя нават пра тое пісалі (маўляў, як гэта на іх раптам незалежнасьць звалілася), а тролі і расейская прапаганда сталі выкарыстоўваць іхны наіўны інфантылізм дзеля павелічэньня маргінальнай наіўнасьці і прыніжэньня нашай свабоды.

Незалежнасьць мае шмат добрасьцяў і прыкмет. Чалавек чуецца тады роўным у чалавецтве і гаспадаром у сваёй краіне, нават калі там дыктатура.

Для мяне тэст незалежнасьці – гэта калі ты заходзіш у любую ўстанову, і ўсюды гучыць беларуская мова. Калі таго няма – гэта значыць пад пагрозай ёсьць незалежнасьць і нешта нядобра робіцца ў нашым Вялікім Княстве. Гэта не незалежнасьць, калі ты прыходзіш у рэктарат Радыё-тэхнічнага інстытута (як тое некалі было са мной за саветамі), а рэктар-маскаль табе кажа ў твар: «Разговаривайте по-человечески!» І калі ты пытаеш, ці атрымліваў ён калі-небудзь у жыцьці аплявухі, адказ быў такі: «Я вас сдам в КГБ.» Незалежнасьць ёсьць там, дзе няма КГБ.

## Дэмакратыя

Дэмакратыя – гэта форма ўлады, структуру якой фармуе ўвесь народ альбо асобная яго група шляхам выбараў альбо дэлегаваньня прадстаўнікоў.

Дэмакратычная форма ўлады спрыяе індывідуальнай рэалізацыі асобы і разьвіцьцю грамадзкай супольнасьці, прадугледжвае свабоду і вольнасьць грамадзяніна.

Дэмакратыя дала магчымасьць у некаторых краінах стварыць якаснае сацыяльнае забесьпячэньне і забясьпечаную старасьць, падтрымаць інвалідаў, адукацыю і творчасьць, яна стымулявала здаровую канкурэнцыю вытворчасьці і разьвіцьцё індустрыі, рынкавых дачыненьняў, эфэктыўнай сельскай гаспадаркі.

Адначасна дэмакратычная форма ўлады спрыяе павелічэньню энтрапіі, разбурэньню грамадзкага парадку, прыводзіць да страты кантролю над антыграмадзкімі, дэградуючымі працэсамі, пры крызісных абставінах вядзе да аслабленьня і разбурэньня дзяржавы (Рэч Паспалітая, Вялікае Княства Літоўскае, Ноўгарад, Грэцыя, Рым).

Рынкавая эканоміка і рынкавыя дачыненьні найлепш рэалізуюцца ў палітычнай сістэме дэмакратыі. У сучасным сьвеце дэмакратычная форма ўлады адпавядае характару вытворчых адносін, але па сваёй анталагічнай сутнасьці – гэта шчарбатая («збочаная» па Арыстоцелю) сістэма кіраваньня, якая пры пэўных абставінах прыводзіць да ўпадку і дэзарганізацыі грамадзтва. Паводле У. Чэрчыля – гэта дрэнная форма, але лепшай не прыдумалі.

У выбарчай сістэме ўсеагульнай дэмакратыі, якая не прадугледжвае абмежаваньняў і выбарчых цэнзаў, закладзена сістэмная магчымасьць маральнай дэградацыі грамадзтва і ўлады. Гэта ёсьць ахілесавая пята дэмакратыі і зьвязана яна з прынцыпамі дэмакратычнага змаганьня за ўладу ў час выбараў. Змагаючыся за галасы выбаршчыкаў, прэтэндэнты на ўладу (у залежнасьці ад асабістага ўзроўню і характару) могуць апэляваць да маргінальных і антыграмадзкіх групаў людзей, абяцаючы ім падтрымку, каб атрымаць галасы. Такім чынам у сістэме татальнай выбарнай дэмакратыі закладзены магчымасьці, якія легалізуюць дэструктыўныя, адсталыя, збочаныя, паразітныя і зусім нікчэмныя зьявы грамадзтва – адкіды разьвіцьця, уводзяць іх у сістэму ўлады, у інфармацыйныя інстытуты, якія ўплываюць на ўсё грамадзтва, у сістэму асьветы і інш., падтрымліваюць прыняцьцем дэструктыўных (часта антыграмадзкіх) законаў і палажэньняў.

Левалібэральная дэмакратыя заснавана на касмапалітычнай ідэі прыярытэту правоў чалавека, на касмапалітычнай ідэі мультыкультурнага фармаваньня грамадзтва і на лібэральных

прынцыпах эканомікі, якія прадугледжваюць прыярытэт эканомікі перад дзяржаўнай уладай.

Левалібэральная дэмакратыя ў цэлым як крызісны этап дэмакратыі, павязаная з новымі формамі інфармацыі, выклікае каласальнае павелічэньне энтрапіі за кошт стварэньня сістэмы лібэральных антыкаштоўнасьцяў, галоўнымі зь якіх ёсьць антыхрысьціянства і рэлятывізм, які сьцірае межы паміж дабром і злом, зманам і ісьцінай, дэградацыяй і разьвіцьцём, прыродай і хімерай.

Левалібэральная дэмакратыя сфармавалася ў выніку спалучэньня маргінальных левых ідэй з прынцыпамі дэмакратыі і рынкавай эканомікі.

У левалібэральнай дэмакратыі эканамічным таварам становяцца не высокія таленты асобы, а нізкія заганы, злачынствы і збачэнствы, не хараство, а брыдота. Нават дурнота шырока прадаецца і набывае свой рынак. Назіраецца люмпэнізацыя насельніцтва. У выніку адбываецца ўпадак культуры. Незапатрабаваным робіцца мастацтва, зьнікаюць яго віды, дэградуе мараль, прымітывізуецца асоба.

Усё гэта – складнікі глыбокага духоўнага крызісу, хуткага выхаду зь якога, практычна, не бывае, калі будзе пяройдзена мяжа невяртаньня. Становішча абцяжарана тым больш тлеючым глабальным крызісам насычэньня сусьветнага таварнага рынку, выйсьця зь якога таксама яшчэ не відаць.

Далей аб пэрспэктыве сусьветнай дэмакратыі можна казаць толькі ўмоўна.

Практычна, працэс спаўзаньня ў дэмакратычным сьвеце магло б спыніць духоўнае нацыянальнае адраджэньне як агульнацывілізацыйнае рушэньне. На сёньняшні дзень альтэрнатывай крызісу і рэгрэсу ёсьць толькі ідэя адраджэньня Хрысьціянства. Але гэта якраз тая ідэя, якую не шануе левалібэральная дэмакратыя.

Фармальна спаўзаньне да маральнай катастрофы магла б (мяркуючы тэарэтычна) часова прытармазіць (але не ўратаваць) такая хірургічная апэрацыя лібэральнай дэмакратыі, як шырока ўвасобленая дыктатура, дыктатарская сістэма ўлады. (Гэтым карыстаўся Рым, хоць тое яго і не ўратавала.) Зразумела, што сэнс тут у тым, каб пасьля дыктатуры і санацыі пачалося новае духоўнае дэмакратычнае адраджэньне, а не карупцыйная алігархія і ня люмпэнская ахлакратыя. Прытым трэба ўсьведамляць, што дыктатура ў такіх выпадках нясе з сабой абмежаваньне свабоды, перасьлед, рэпрэсіі і сьмерць. Нармальнасьць дасягаецца часам вялікай, крывавай цаной

(характэрны прыклад дыктатура Піначэта ў Чылі). Гэтакі варыянт для Эўропы ўмоўны і, бадай, не рэальны.

І трэці варыянт -- катастрафічны. Гэта глабальная вайна, па маштабу -- кшталту 2-й Сусьветнай. Магчымасьць такога варыянту павялічваецца якраз тады, калі пераход мяжы невяртаньня адбудзецца, і новы сусьветны тавар ня зьявіцца. Тады ўсе працэсы будуць "працаваць" на катастрофу. І яна мусіла б стаць.

Паправіць становішча (тэарэтычнае разважаньне) магло б адраджэньне Усходняй Эўропы, але пры ўмове яе дамінацыі і ўплыву на адраджэньне Эўропы Заходняй. Усё гэта пакуль малаверагодна, асабліва ўлічваючы разбуральны чыньнік Расеі, які важнейшы за ўсе эўрапейскія супярэчнасьці.

Думаючы, марачы, ствараючы вольную дэмакратычную Беларусь, мы павінны будзем ведаць і ўлічваць становішча вакол нас, тэндэнцыі і перамены, што адбываюцца ў сьвеце.

Беларусь ёсьць краіна старой сярэднявечнай дэмакратыі з княска-соймавай формай кіраваньня. Дэмакратычная форма ўлады (уключаючы і Магдэбургскае права) нам гістарычна вядомая і зразумела, што дэмакратычная рэспубліка – гэта тая краіна і тая ўлада, да якой нашае грамадзтва ёсьць натуральна падрыхтаванае.

Складанасьць тут такая, што дэмакратыя ў краінах Заходняй Эўропы, зь якімі мы вымушаны будзем кантактаваць, знаходзіцца ў глыбокім сістэмным і каштоўнасным крызісе, якога новая буржуазная Эўропа яшчэ дагэтуль ня ведала. Крызіс, як мы заўважылі, мае **лева-лібэральны зьмест** і небясьпека яго для акаляючага сьвету ў тым, што ён носіць палітычна-агрэсіўны характар, гэта значыць імкнецца **навязаць іншым краінам сваё разуменьне дэмакратыі, каштоўнасьцяў ды паняцьцяў і зьвязвае гэта ўмовамі эканамічных ды фінансавых узаемадачыненьняў.**

Заходне-Эўрапейскі крызіс грамадзка-палітычнай сістэмы маніфэстуе падкрэсьлена сьвецкі нерэлігійны (у аснове сваёй антыхрысьціянскі) характар, выявіў тэндэнцыі распаду маральнасьці і культуры. Апошняе палажэньне рэзка пагаршае магчымасьці кансалідацыі і салідарнасьці з астатнім сьветам. Прытым ня толькі са сьветам традыцыйных культур Азіі і Афрыкі, але і са здаровым сьветам усходне-эўрапейскай культуры, найперш Беларусі, Украіны, Грузіі, Арменіі, Малдовы, часткова – краінаў Прыбалтыкі (інфэкцыя якіх яшчэ толькі пачалася).

# Эўропа

Эўропа, па ўмоўнай тэрміналогіі, – гэта Эўразьвяз. Але рэальна пад Эўропай сьвет разумее Заходнюю Эўропу, гэта значыць найперш тыя краіны, якія дамінуюць у Эўразьвязе і не ўваходзілі ў зону Варшаўскага дагавору.

Паўраспад СССР паспрыяў узмацненьню левых у заходне-эўрапейскай палітыцы, пашырыў антыхрысьціянскія пазыцыі ў лібэральным грамадзтве, што прывяло да адчувальнага паслабленьня культурнага імунітэту заходне-эўрапейскіх краінаў.

Гэта паспрыяла амаль бесперашкоднай экспансіі ісламскага сьвету на стары кантынент, якая разглядаецца лідыруючымі групамі гэтай экспансіі як заваяваньне Эўропы, якое, адзначым, пасьпяхова разьвіваецца па ўсіх накірунках. Эміграцыя людзей Афрыкі і Ўсходу ацэньваецца імі як армія ўварваньня. Акупацыя адбываецца бяз зброі, крок за крокам займаецца тэрыторыя, наладжваецца выбарачны тэрор мясцовага насельніцтва. Канцовы вынік вырашыць арабская і афрыканская жанчына, плоднасьць якой у восем-дзесяць разоў перавышае нараджальнасьць жанчын у лібэральнай Эўропе.

Прышэльцы не інтэгруюцца ў новае грамадзтва, бо ўспрымаюць яго рассаднікам маральнай дэградацыі чалавека. Гэта значыць, у маральным сэнсе ставяць сябе вышэй (хоць у сапраўднасьці так ня ёсьць).

Наіўнае жаданьне заходнеэўрапейцаў уладкаваць у сябе дома «хатні каланіялізм» (абслугу таннай і чорнай працы за кошт эмігрантаў з сваіх былых калоній) цалкам правалілася. Не дапамагла і дэмагогія мультыкультуралізма. У плане гістарычнага сацыяльна-культурнага працэсу спрацаваў **бумеранг справядлівасьці.**

(Адзначу, што ў духоўным плане справядлівасьць ёсьць найвышэйшай каштоўнасьцю ў сьвеце. Бог ёсьць справядлівы.) Багацьце заходне-эўрапейскіх краінаў у значнай ступені фармавалася за кошт шалёнага і сквапнага абрабаваньня калоній, людзей, што былі на ніжэйшым узроўні разьвіцьця. Напрыклад, такая штучная маленькая краінка, як Бэльгія (і нацыі такой «бэльгійскай» не існуе) трымала велізарнейшыя калоніі ў Афрыцы і няшчадна іх эксплуатавала, вяла там крывавыя войны. Цяпер нашчадкі з гэтых калоній ідуць эміграцыйным шляхам заваёўваць Бэльгію і жыць за бэльгійскі кошт. Бумеранг вяртаецца.

Сытуацыя ўскладняецца тым, што лібэральная дрэсіроўка грамадзтва на антыхрысьціянскіх псэўдакаштоўнасьцях і на збочанай маралі ўжо прывяла да зьніжэньня чалавечага чыньніку і волі людзей. Заходне-эўрапейскае грамадзтва **страціла ініцыятыву салідарнасьці і рахунак волі.** Яно як супольнасьць ужо ня ў стане аказаць сур'ёзнае супраціўленьне тэрору і дыктату прышэльцаў, хоць «інтрусы» (эмігранты) складаюць яшчэ нязначную частку грамадзтва.

Парушанымі аказаліся істотныя сувязі між жанчынай і мужчынам у грамадзтве. Калі коратка (па схеме), то выглядае так: мужчына там ужо ня здольны абараняць жанчыну і змагацца за яе, а жанчына ня здольная ахвяравацца дзеля мужчыны. Такое грамадзтва – слабое. Не кажу ўжо тут пра ўпадак сямейных каштоўнасьцяў. Мы бачым яшчэ толькі пачатак упадку.

Мушу яшчэ раз паўтарыць тое, пра што казаў ня раз. **Левалібэралізм як форма лявацтва ў аснове сваёй больш небясьпечны для культуры і цывілізацыі, чым камунізм,** хоць і не суправаджаецца генацыдам і людзкімі ахвярамі. Левалібэралізм прыводзіць да таго, што грамадзтва і асобны чалавек мэнтальна і маральна згніваюць знутры. У выніку зьнікае самае галоўнае ў культуры – надзейная асоба, дэградуе характар і маральная індывідуальнасьць чалавека, зачыняецца духоўнасьць і цывілізацыйная пэрспэктыва.

## Маскоўшчына (Расея)

Што такое Маскоўшчына і маскоўцы, што ёсьць Расея – гэта даўно было вядома асобным людзям нават на Захадзе. Нагадаю клясычнае выказваньне Рональда Рэйгана пра Расею як «скопішча зла». Цяпер, пасьля сэрыі расейскіх захопніцкіх войнаў, нападаў на Чачэнію, Грузію, Украіну (раней на Малдову) патрэбнасьць у тлумачэньні і цытаваньні, што такое Масква, практычна, адпадае. Вольныя людзі і той, хто мае розум, усё ўбачылі.

**Сутнасьцю расейскай палітыкі ёсьць агрэсія, галоўная каштоўнасьць – тэрыторыя, галоўны чыньнік палітыкі – імпэрская (расейская) мова, галоўны мэтад палітычных дачыненьняў – вераломства і хлусьня.** Трэба дадаць яшчэ незвычайную зьверападобную жорсткасьць, злосьць і нянавісьць расейцаў у дачыненьні да людзей, якіх яны лічаць сваімі ворагамі, альбо якія зь імі ня згодныя.

Толькі цяпепр на Захадзе некаторыя людзі пачалі ўсьведамляць, што Расея – гэта ёсьць **праблема ўсяго**

**чалавецтва,** крыніца міжнароднага тэрарызму, войнаў, закалотаў, пераваротаў, правакацыяў і нянавісьці. Гісторыя паказала, што вырашэньне праблемы рэліктавай Расейскай імпэрыі магчыма толькі шляхам яе ліквідацыі. У выпадку вайны (горшы варыянт) павінен адбыцца яе разбор і ўладкаваньне самастойных тэрыторыяў. Мірным шляхам (аптымальны варыянт) – гэта ізаляцыя і дэзынтэгацыя па складовых частках.

Па вялікаму кошту, цяперашняя палітыка гэбоўскай Маскоўшчыны паказвае, што для яе паўраспад СССР яшчэ працягваецца. Крэмль хоча зноў захапіць вольныя краіны, што вызваліліся ад «турмы народаў». Гэта азначае, што эскалацыя вайны непазьбежная, і напад на Украіну – гэта не апошняя агрэсія Масквы.

## Пакаленьне

Перамены ў грамадзтве адбываюцца ад пераменаў ідэй. Але ідэі зьмяняюцца разам са зьменай пакаленьняў. Трэба разумець, што не павінна вырастаць безідэйнае пакаленьне. Гэта была б перадумова калапсу і застою. Апошнія 22 гады – гэта маштаб у адно пакаленьне для Беларусі, што вырасла ў антыбеларускіх умовах несвабоды. Можна адвольна сказаць, што наша нацыянальная пэрспэктыва згоршала ў выніку значнай страты гістарычнага часу памерам у адно пакаленьне.

Тым часам асэнсаваньне адмоўнага вопыту і частка людзей, што вырасла ў змаганьні за ідэалы, вымярае будучыню краіны. Фармаваньню новага пакаленьня мусіць быць нададзена найвялікшая ўвага ў вольнай Беларусі, якая вызваліцца ад акупацыйнага рэжыму і ад антыбеларускай палітыкі.

## Інтэлігенцыя

Культура грамадзтва моцная наяўнасьцю і колькасьцю адукаваных інтэлектуальных людзей. Гэтая зьява (інтэлектуалісты) у сучасным сьвеце **ёсьць чыньнікам рынку** і падпарадкавана яму.

Для нацыі, аднак, вельмі важна мець ня толькі інтэлектуалаў, але інтэлегенцыю, гэта значыць людзей, якія валодаюць адукацыяй, інтэлектам і ведамі і нясуць іх (ахвяруюцца імі) на карысьць народу (нацыі). Гэта вызначэньне Максіма Багдановіча. Інтэлігенцыя **ёсьць чыньнікам нацыі** і характэрная толькі для Ўсходняй Эўропы (найперш для Беларусі і Украіны). На Захадзе інтэлігенцыі, практычна, няма.

Інтэлігенцыя ёсьць нацыятворным чыньнікам грамадзтва, і таму, натуральна, валодае адметным узроўнем маральнасьці і культуры. У нацыятворчым працэсе інтэлігенцыя выконвае ролю шляхты новага (не саслоўнага) часу.

У вольнай Беларусі ўлада і грамадзтва мусілі б асабліва дбаць аб адраджэньні і хуткім стварэньні высокай нацыянальнай інтэлігенцыі. Гэтаму павінна спрыяць палітыка дзяржавы у сістэме адукацыі і працоўных дачыненьняў. Інтэлектуальная праца павінна высока аплочвацца, мець класнасьць узроўняў, стымуляцыйныя аспэкты росту і разьвіцьця.

## Шляхта

Дзяржаватворным сацыяльна-культурным элемэнтам у старажытнай Беларусі (Вялікім Княстве Літоўскім) была вольная шляхта. Як дакладна заўважыў беларускі пісьменьнік Сяргей Вераціла, шляхта была народам. Тут трэба толькі ўдакладніць, што шляхта **была чыньнікам дзяржавы**.

Найперш, гэта былі вольныя людзі, якія падпарадкоўваліся закону, гонару і абавязку. Шляхта складала да дваццаці адсоткаў насельніцтва ў дзяржаве, удзельнічала ў выбарах (у Сойм і Соймікі), займала дзяржаўныя пасады, валодала зямлёй і галоўнае – удзельнічала ў вайсковай абароне Радзімы са сваёй зброяй, коньмі і рыштункам.

Шляхта вылучалася асаблівай павагай да жанчыны і няпісаным кодэксам гонару, які быў даражэй за жыцьцё. Ганьба была горшай за сьмерць. Шляхта служыла не сабе, але Айчыне, і ў гэтым служэньні валодала гэрбамі роду.

Маскоўскія акупанты на працягу двухсот гадоў акупацыі мэтадычна і пасьлядоўна вынішчалі шляхту. Бальшавіцка-расейскі генацыд 1920-х-1940-х гадоў, акрамя вынішчэньня беларускай інтэлігенцыі, адміністрацыі, творчай эліты і сялян, асаблівым сваім вастрыём быў накіраваны супраць выхадцаў і нашчадкаў беларускай шляхты. Вынішчалі нават па прозьвішчах, па прыналежнасьці да шляхецкага паходжаньня. Спраўцы генацыду пасьлядоўна забівалі генетычна вольных людзей у Беларусі.

Родавая сэлекцыя забойстваў адбілася на мэнтальнасьці беларускай нацыі, спрычынілася да абніжэньня грамадзкай актыўнасьці, да адчужанасьці ад ўлады і дзяржаўных спраў, бо яны стагоддзямі былі акупанцкія і чужыя.

Гістарычны экскурс павінен дапамагчы нам зразумець, што моцнае, скансалідаванае нацыянальнае грамадзтва мусіць

мець у сабе эліту розуму і эліту духа. Вольная Беларусь мусіла б спрыяць адраджэньню і ўтварэньню ў грамадзянскай сістэме супольнасьці новай шляхты на аснове традыцыяў, кодэксу гонару і маралі.

У пэрспэктыве дзяржава магла б пастановай парляманту нават тытулаваць ступеньню шляхецтва асобаў, якія самааддана працуюць на ніве адраджэньня нацыянальнай культуры, нацыянальнай дзяржавы, братэрства людзей, справядлівасьці і велічы сьветлага духа нацыі. Прытым гэтым асобам надаваліся б пэўныя вольнасьці (напрыклад, асабовае непасрэднае права балатавацца ў парлямант без працэдуры збору подпісаў і інш.). Абавязкам магла быць грамадзкая праца на ніве вывучэньня, абароны і разьвіцьця беларускай мовы, культуры і гісторыі, абароны справядлівасьці, абарона таленту.

Беларускае вольнае грамадзтва мусіла б падтрымліваць фармаваньне супольнасьцяў, якія спрыялі б канкрэтызацыі ў ажыцьцяўленьні маральных, духоўных, гуманістычных ідэалаў.

Пасьля сьмяртэльных ураганаў нацыянальнага вынішчэньня і акупацыяў цяперашняе беларускае жыцьцё захавала яшчэ часам дзіўныя рэліктавыя сьведчаньні былога дакатастрафічнага часу.

Журналіст Зьміцер Бартосік распавёў пра бедную беларускую вёску на мяжы з Расеяй, дзе жывуць з выгляду звычайныя сяляне, робяць усю цяжкую сялянскую працу, але лічаць сябе шляхтай (нашчадкамі шляхты) і жывуць адпаведна шляхецкім правілам: ня лаюцца, ня хлусяць, кажуць толькі праўду, не бяруць чужога, не напіваюцца і ня б'юцца, а калі весяляцца, то сьпяваюць песьні, дапамагаюць сваім. Суседнія вёскі яны называюць «мужыцкімі», бо там, па іх словах, «як нап'юцца, дык і паб'юцца».

Гэта прыклад, якую ролю іграе маральны, культурны імпэратыў у чалавечай супольнасьці.

Іншы прыклад – сяло Альшаны каля Давыд-Гарадка, якое матэрыяльна квітнее нават у абставінах цяперашняга абсурднага рэжымнага жыцьця, дзякуючы найперш пратэстанцкім традыцыям адносінаў да працы, падмацаваных верай у Бога.

Народная некарупцыйная ўлада вольнай Беларусі ў стане будзе адрадзіць сьветлыя ідэалы, добрыя традыцыі, вольную прыбытковую працу і шчасьлівага чалавека на вольнай сваёй зямлі.

## Гісторыя

Беларусы маюць пад сабой такую вялікую старажытную культуру і такую магутную гісторыю сваёй сярэднявечнай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага, – што адно толькі веданьне яе ў грамадзтве будзе дзейнічаць як дзяржаватворны нацыянальны чыньнік. Тое выдатна разумелі нацыянальныя дзеячы канца XIX-пачатку XX стагоддзяў, якія сфармулявалі змагарную ідэалогію нацыянальнага Адраджэньня, дзе апора была на гісторыю, сялянства, асьвету і стварэньне незалежнай дзяржавы.

У пачатку 90-х гадоў, рыхтуючы Канстытуцыю незалежнай дэмакратычнай Беларусі, мы, дэпутаты ад БНФ, асабліва адзначылі ў прэамбуле пераемнасьць беларускай дзяржаўнай і культурнай традыцыі ад Полацкай зямлі і Вялікага Княства Літоўскага. Гэтую прэамбулу катэгарычна завалілі дэпутаты камуністычнай намэнклятуры і ветэраны НКВД (хаця, здавалася б, што яны ў тым разумелі).

Гэтак жа, як нацыянальная ідэалогія беларускіх адраджэнцаў абапіралася на праўдзівую гісторыю Беларусі, гэтак і ворагі беларускай незалежнасьці і беларускага нацыянальнага існаваньня стараліся зьнішчыць, схаваць, перакруціць, сфальшаваць нашу гісторыю, каб пазбавіць беларускую нацыю гістарычнага грунту. Наша гісторыя – гэта поле вайны з варварамі і імпэрскімі акупантамі.

У вольнай Беларусі будзе адноўлена гістарычна-культурная сувязь з нашай вялікай народнай мінуласьцю. Кожны беларус будзе ведаць, што ён нашчадак вялікай культуры і вялікай дзяржавы.

У скансалідаванай асьвечанай беларускай нацыі, якая ўмацуецца праз адно пакаленьне свабоды (20-25 гадоў) будзе магчымасьць сфармалізаваць нашу гісторыю ў пашыранай назве дзяржавы (як гэта часта прынята ў сьвеце). Гэта істотна гэтак жа, як і гістарычная геральдыка і ёсьць даволі куртуазнай справай, калі існуюць падставы і неабходнасьць.

У кніжцы «Прамаскоўскі рэжым» (2005 г.) я прыводзіў прыклад і абгрунтаваньне, чаму поўная назва дзяржавы магла быць запісана як Вялікае Княства Літоўскае Беларусь. Тонкасьць у тым, што тэрміналагічная (вэрбальная) форма назвы павінна адпавядаць структурнай сутнасьці дзяржаўнай улады. Фармальнай праблемы тут не ўзьнікае. Можа быць запрошаны на пасад любы нашчадак каранаванай асобы. Тым больш, што Радзівілы валодалі правам каралеўскага тытулу. Але галоўнае

пытаньне (пытаньне здаровага сэнсу) у абгрунтаваньні мэтазгоднасьці такога дзеяньня і ў адпаведнасьці яго інтарэсам нацыі і дзяржавы.

У першым пакаленьні свабоды такое пытаньне, магчыма, ня вырашыцца. Але шмат залежыць ад абставінаў. Астатняе – пакажа будучыня.

Дарэчы, гэтая наша публікацыя разважаньняў пра гіпатэтычныя магчымасьці канкрэтнага выкарыстаньня гісторыі ў пабудове нацыянальнай дзяржавы, выклікала тады маргінальны антыбеларускі тролінг. Маргіналы (а магчыма агентура) пачалі адмаўляць існаваньне беларусаў як нацыі, казаць пра зьмену назвы Беларусь на Літву і т. п. ерась, дэманструючы нянавісьць да ўсяго беларускага (да назову краіны, народу, нацыі, культуры і г. д.).

Трэба берагчы і паважаць сакральныя каштоўнасьці народнай гісторыі. Фактам ёсьць тое, што на месцы Вялікага Княства Літоўскага ўзьнікла Беларусь і сфармавалася пэрспэктыўная беларуская нацыя зь вялікай гуманістычнай і прыгожай літаратурай, тэатрам, навукай і мастацтвам. Беларусь ёсьць наша вялікая жыцьцёвая кансалідуючая каштоўнасьць, якая яшчэ напоўніцу расчыніцца пасьля канчатковага распаду ардынскай Расеі. Тады ўзьнікнуць спрыяльныя ўмовы ў Беларусі, каб злучыліся пачатак і працяг – новая назва і старажытнае існаваньне.

Шануйма Беларусь! Будзьма моцнымі беларусамі – спадкаемцамі гістарычнага ліцьвінства і Вялікага Княства Літоўскага!

## Сям'я

Цягам актыўнага культурнага існаваньня Вялікага Княства Літоўскага наш народ стварыў моцныя цывілізацыйныя каштоўнасьці. Гэта найперш – соймава-княскую дзяржаву, высокае моцнае заканадаўства, дзейсную судовую сістэму, дасканалыя замкі і гарады, што кіраваліся Магдэбургскім правам, эфэктыўную гаспадарку, вольны народ – шляхту, унівэрсітэты, сістэму адукацыі і шмат што іншае.

Сярод гэтага ўсяго ў нас існаваў дасканалы ўзорны сацыяльны інстытут, які выклікаў асаблівую пашану і пахвальбу ў замежнікаў і суайчыньнікаў таго часу. Такім дасканалым на тую пару інстытутам была традыцыйная беларуская ці, як тады казалі, «ліцьвінская» сям'я.

«Ліцьвінская сьм'я» была пабудавана на ўзаемнай любові ўсіх сямейнікаў, на партнёрскіх дачыненьнях з боку мужчыны і глыбокай павазе ўсіх да жанчыны-жонкі і жанчыны-маці, якая мела да таго ж вялікія эканамічныя правы, замацаваныя ў законах.

Ліцьвінская сям'я была асновай выхаваньня маральнай асобы і каштоўнасьцяў у грамадзтве. Яна была грунтам добрай улады ў дзяржаве і гуманітарных дачыненьняў людзей у Вялікім Княстве. Традыцыі добрай ліцьвінскай сям'і (нягледзячы на ўсе разломы і катастрофы гісторыі) пратрывалі часткова да сёньняшняга дня.

Сям'я ёсьць вялікай каштоўнасьцю нацыі і нацыянальнага грамадзтва, грунтам гуманнай асобы чалавека і асновай перадачы ў засвойваньні культуры.

Левалібэралізм як ідэалогія эгаістычнага індывідуалізму мэтанакіравана разбурае сям'ю ў заходнім сьвеце. Створана вычварнае неадэкватнае заканадаўства, якое пранікае ў міжнародныя структуры (напрыклад, так званая «ювенальная сістэма юстыцыі», на практыцы антычалавечая ў сваім выяўленьні).

Улада вольнай Беларусі будзе разумна ўлічваць усе тэндэнцыі разьвіцьця і рэгрэсу ў сучасным сьвеце, каб захаваць сваю ідэнтычнасьць і добрыя каштоўнасьці, напрацаваныя нашым народам.

## Жанчына

Зыходзячы з традыцыяў «ліцьвінскай сям'і» і мэнтальнасьці людзей, у Беларусі яшчэ існуе своеасаблівы культ жанчыны (ці, можна сказаць, існаваў да апошняга часу). Гэтая зьява абгрунтавана таксама характарам і воблікам беларускай жанчыны, разумнай, паважнай, не агрэсіўнай, прыгожай і маральнай. Характарыстыка годнасьці і цноты беларускай жанчыны, напісаная Янкам Купалам, ёсьць абсалютна (па-біблейску) дакладная, фактычна, класічная:

На беларускую дзяўчыну,
Калі тут праўду ёй аддаць,
Ніхто йшчэ каменем ня кінуў,
І не паважыцца кідаць.

У беларускім грамадзтве (ізноў жа, да цяперашняга часу) жанчына была маральна-вызначальным элемэнтам у грамадзка-

этычных дачыненьнях. За саветамі з прычыны алкагалізацыі насельніцтва, якая больш закранула мужчын, жанчына была больш надзейным партнёрам для стварэньня сям'і, чым мужчына. Тут (у прыніжэньні мужчыны) прыкмета вельмі небясьпечнай дэградацыі грамадзтва. Тое, аднак, мала трывожыла людзей, пакуль жыцьцёвая нармальнасьць трымалася на жанчыне. За апошнія 22 гады антыбеларускага рэжыму становішча перамянілася ў горшы бок.

Хамства, грубасьць, агрэсія, п'янства, брыдкаслоўе ў выніку расейскага антыкультурнага ўзьдзеяньня і палітыкі антыбеларускага рэжыму распаўсюдзіліся шырока. П'янства і брыдкаслоўе закранула жаночы пол, зьнізілася павага да жанчыны, павялічваецца крыміналізацыя дачыненьняў у сям'і сярод ніжэйшых пластоў грамадзтва.

Улада вольнай Беларусі павінна будзе (мэтады існуюць) вельмі сур'ёзна задбаць над абмежаваньнем зьявы алкагалізму, працаваць над стварэньнем адпаведных статусу і прыродзе жанчыны умоваў яе жыцьця і добрых падставаў для ўмацаваньня сям'і.

Будзе заканадаўча спынена прапаганда палавой нянавісьці, што экспартуецца ў Беларусь (за халяўныя грошы) з маргінальных ускраінаў Захаду (розных фэміністак, лесбаў, «гендэрнага» круцельства і інш.).

Самае шкоднае, што робіць на Захадзе лева-лібэральны «інтэрнацыянал» з жанчынай – гэта ператварае яе вобраз, яе ідэал маці і жонкі ў аб'ект сэксу і сэксуальнага пакланеньня. Сэкс у адносінах паміж мужчынам і жанчынай у левалібэралаў ёсьць галоўным і адзіным дачыненьнем. На гэтае, па сутнасьці, распуснае і зьняважлівае для жанчыны прыніжэньне ў паводзінах (якое ў прынцыпе выключае шчасьце) зьвернута ўся індустрыя лева-лібэральнай маскультуры, рэклямы і прапаганды.

Назіраючы на Захадзе за тымі людзьмі, што знаходзяцца пад уплывам збочанага лібэралізму, заўважаеш, што яны (як жанчына, гэтак і мужчына) не гатовыя да стварэньня сям'і і ня маюць адказнасьці перад дзецьмі, народжанымі ў сьвет.

У вольнай Беларусі такой дэструкцыі міжлюдзкіх дачыненьняў не павінна быць. Грамадзтва, пры падтрымцы вольнай дзяржавы, знойдзе сілы, каб сябе абараніць.

Тут мусіць праводзіцца цьвёрдая палітыка. Трэба разумець простыя рэчы, пацьверджаныя гісторыяй чалавецтва. Жанчына (у адрозьненьне ад мужчыны) ня ёсьць па сваёй прыродзе актыўным элемэнтам чалавецтва. Гэта элемэнт кансэрватыўны (зьвязваючы). Таму сям'я, а па вялікаму кошту, –

нацыя і ўвесь сьвет, – трымаюцца на жанчыне. Разумнае грамадзтва мусіла б вызначыць прыярытэты і стварыць умовы дзеля добрай рэалізацыі прыродных псіхічных і сацыяльных магчымасьцяў жанчыны ў гармоніі з грамадзтвам.

Гістарычны вопыт паказвае, што такое (адэкватнае становішча жанчыны) больш характэрнае на простым узроўні сацыяльнай супольнасьці ў нескладаных дачыненьнях. Але яно магчымае і ў складаных сацыяльна-індустрыяльных структурах. Толькі лібэралізм ня ставіць такой задачы. Сквапнасьць, абагачэньне, жорсткія ўмовы лібэральнага рынку і шчарбатая ідэалогія, пакліканая на абслугу гэтага рынка абагачэньня не дазволілі вырашаць шмат якія гуманістычныя праблемы. З жанчыны (як і з усіх людзей) лібэралы зрабілі рынкавы тавар і стварылі зь яе яшчэ адну адметную рэкламную «каштоўнасьць» – эксплуатацыю лібіда сучаснага чалавека.

Беларусь і ўся Ўсходняя Эўропа мае большыя магчымасьці запабегчы маральнаму ўпадку грамадзтва, чым Захад. У будучыні гэтыя магчымасьці могуць быць выкарыстаныя, улічваючы нэгатыўны досьвед заходняй цывілізацыі.

## Унутраннае ўладкаваньне

Беларусь мусіла б быць парляманцкай рэспублікай з пасадай прэзыдэнта (галава дзяржавы) і прэм'ер-міністрам – кіраўніком выканаўчай улады.

Найважнейшым аспэктам функцыяваньня вольнай беларускай дзяржавы ёсьць яе ўнутраннае заканадаўчае, эканамічнае і сацыяльнае ўладкаваньне. Тут у беларускага грамадзтва ёсьць вялікія магчымасьці. Апора павінна быць на энтузіязм вольнага чалавека, які адчуе плён сваёй працы. Дзеля гэтага фармуецца гарантаваная сфэра ўласнасьці, разумная сістэма падаткаў і сацыяльнага забесьпячэньня.

Апора на адукацыю, на інавацыі, перадавыя тэхналёгіі, на разьвіцьцё навукі, на стварэньне добрага клімату для інвестыцый, дзеля хуткага ўздыму жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва.

Мусіць быць створана адэкватная нацыянальным інтарэсам і запатрабаваньням людзей палітычная сістэма ўлады, самакіраваньня і адміністрацыйнага падзелу краіны. Беларуская нацыя створыць народную праграму дзяржаўнага разьвіцьця Беларусі і пасьпяхова ўвасобіць яе ў жыцьцё.

## Погляд далей

Вечная пастаянная пагроза беларускай незалежнасьці зыходзіць з Маскоўшчыны, цяперашняй Расеі. Гэтая небясьпека існуе з 13-га стагоддзя, ад часу ўтварэньня Залатой Арды – Вялікага Паўночнага ўлуса («Улуса Джучы») Мангольскай імпэрыі. У канцы XVIII стагоддзя ардынская Расея, злучыўшыся ў сваіх дзеяньнях зь немцамі, захапіла Вялікае Княства Літоўскае – будучую Беларусь. На 25-м годзе беларускай Незалежнасьці мы зноў назіраем падрыхтоўку Расеі да вайны і да чарговага захопу Беларусі. Пагроза нашаму незалежнаму існаваньню будзе заўсёды, пакуль застанецца існаваць Расея з комплексам ардынскай імпэрыі. Агрэсіўныя паводзіны Расеі ніколі ня скончацца.

З цягам часу вольныя беларусы зразумеюць, што беларускай дзяржаўнай стратэгіяй у такім становішчы мусіць быць палітыка ліквідацыі Расейскай імпэрыі. Усе іншыя падыходы маюць меншыя шансы ў абароне краіны ад агрэсіі з Усходу.

Тут аб'ектыўныя абставіны: ардынская Расея як агрэсіўная краіна -- крыніца тэрарызму, генацыду і вайны – мусіць быць заблакавана. Аптымальны шлях перамены на Ўсходзе – структурная дэзынтэграцыя імпэрскай Расеі, пазбаўленьне ад турмы народаў, зьяўленньне на месцы Маскоўшчыны шэрагу народных дзяржаў і вольных краін. Такая пэрспэктыва цалкам рэальная і адпавядае інтарэсам мірнага чалавецтва.

Яшчэ ў 1974 годзе ў беларускім «Самвыдаце» пэрыяду СССР мне прыходзілася пісаць пра відавочныя ў нашым дэсідэнцкім асяроддзі рэчы аб будучай дэзынтэграцыі СССР (гэты працэс пачаўся ў 1991 годзе), аб пэрспэктыве поўнага распаду ардынскай Расеі і, што істотна, пра тое, што чакаецца наперадзе, – аб амярцьвеньні расейскай імпэрскай мовы (у значнай ступені штучнай, пабудаванай на старабаўгарскай мове, якая раней была афіцыйнай ў Масковіі). Пасьля поўнага распаду Расеі праміне агулам якіх сто гадоў і афіцыйная моўная расейшчына цалкам зьнікне з твару зямлі, ператворыцца ў мёртвую мову, вядомую толькі спэцыялістам, дзеля працы ў архівах. Гэта лёс шмат якіх імпэрскіх моваў.

Адродзіцца (ад Дона і Кубані да Карпатаў) вялікая Украіна, насьледніца Кіеўскай Русі, наш натуральны (падмацаваны агульнай гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага) саюзьнік і блізкі да нас, беларусаў, народ.

Пасьлярасейскі сьвет, мне падаецца, будзе значна больш спакойным, мірным, гуманным і скансалідаваным на патрэбе агульнага дабра. Усходняя Эўропа (гэта цалкам магчыма) папоўніцца новымі краінамі і народамі, якія стануць хутка адраджацца, практычна, зь небыцьця. Мары-Эл, Мардва, Комі, Чувашы і іншыя народныя супольнасьці, панішчаныя Масквой, адродзяцца. Варта ўжо цяпер падтрымліваць гэтыя народы.

Будучыня, якая (маем спадзеў) адчыніцца перад беларусамі, украінцамі, татарамі, перад вольнымі народамі Каўказу і вызваленымі народамі Маскоўшчыны – гэта будучыня новай Ўсходняй Эўропы, скансалідаванай ў Балта-Чарнаморскай Супольнасьці, якая зноў, як пры Вялікім Княстве, скажа сваё важкае слова ў гісторыі Эўрапейскай цывілізацыі.

З гледзішча сёньняшняга становішча, пэрспэктыва апісаная намі малаверагодная. Але яна можа стаць рэальнай, калі сьвет ўсьвядоміць праблему «скопішча зла» і пачне над вырашэньнем яе працаваць.

*10-25 жніўня 2016 г.*

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ.
# Беларуская нацыянальная рэвалюцыя.
# (Падзеі ў фатаграфіях)

---------------------------------------------------------------

## 1989-1990 гг.
## Пярэдадзень



Менск. Стадыён «Дынама». Студзень 1989 г. Мітынг Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

Вільня.1989 г. Красавік. Мітынг  за свабоду Летувы. Выступае З. Пазьняк




Вільня. 1989 г. 23 чэрвеня. Дэлегаты Устаноўчага Зьезду БНФ «Адраджэньне» ідуць калонай да месца сьмерці Кастуся Каліноўскага ўшанаваць памяць нацыянальнага героя.




Менск. Сакавік 1990 г. У скверы імя Янкі Купалы. «Vivat Albarussija liberta!”




Менск. Сакавік 1990 г. У скверы імя Янкі Купалы. Танцуе і сьпявае моладзь з «Талакі». У белай швэдзе Сяргей Вітушка.




Менск.Сакавік 1990 г. «Дзяцюкі! Хіба здушылі ў Вашях душах прагу да Волі?»




Менск. Сакавік 1990 г. «Беларусь савецкая – Беларусь бяз будучыні.»



Менск. Верасень 1990 г. Сход Рабочага саюза і Незалежнага прафсаюза сумесна з прадстаўнікамі БНФ у Базылянскіх мурах.



Менск. Верасень 1990 г. Сход Рабочага саюза і Незалежнага прафсаюза сумесна з прадстаўнікамі БНФ у Базылянскіх мурах.



Менск. Верасень 1990 г. Сход Рабочага саюза і Незалежнага прафсаюза сумесна з прадстаўнікамі БНФ у Базылянскіх мурах.



Менск. Верасень 1990 г. Сход Рабочага саюза і Незалежнага прафсаюза сумесна з прадстаўнікамі БНФ у Базылянскіх мурах.



Менск. Лістапад 1990 г. Галадоўшчыкі (за права на атрыманьне зямлі) у палаткавым лагеры на плошчы Леніна раніцой грэюцца ля вогнішча.




1990 г. Дэпутаты Апазыцыі БНФ у час паездкі ў Магілёў.  Зь лева на права: Зянон Пазьняк, Барыс Гюнтар, Алег Трусаў, Валенцін Голубеў, Юры Беленькі.




Менск. Шэсьце ў гонар прыняцьця Дэкларацыі аб суверэнітэце БССР.




Менск. Крокі да Незалежнасьці.

# 1991 год
# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ



Менск. 1991 г. Красавік. Сто тысячаў беларускіх рабочых на плошчы Леніна перад Домам Ураду супраць сацыяльна-эканамічнай палітыкі СССР і КПСС.




13-14 чэрвеня 1991 г. Выступы дэпутатаў Апазыцыі БНФ на сэсіі Вярхоўнага Савета пры абмеркаваньні справаздачы Часовй Камісіі ВС па ацэнцы дзейнасьці службовых і іншых адказных асобаў у сувязі зь ліквідацыяй наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. На здымку дэпутаты Аляксандар Шут (зьлева) і Мікалай Крыжаноўскі.



13-14 чэрвеня 1991 г. Вярхоўны Савет. Аб ацэнцы дзеяньняў службовых асобаў у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. У цэнтры дэпутаты Апазыцыі БНФ Галіна Сямдзянава, Валянцін Голубеў, Сяргей Папкоў.



13-14 чэрвеня 1991 г. Вярхоўны Савет. Аб ацэнцы дзеяньняў службовых асобаў у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Выступае ў дыскусіі Старшыня Апазыцыі БНФ дэпутат Зянон Пазьняк.



13-14 чэрвеня 1991 г. Вярхоўны Савет. Аб ацэнцы дзеяньняў службовых асобаў у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Выступае ў дыскусіі дэпутат Апазыцыі БНФ Ігар Гермянчук.



13-14 чэрвеня 1991 г. Вярхоўны Савет. Аб ацэнцы дзеяньняў службовых асобаў у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Выступае ў дыскусіі дэпутат Апазыцыі БНФ Лявонці Зданевіч.



13-14 чэрвеня 1991 г. Вярхоўны Савет. Аб ацэнцы дзеяньняў службовых асобаў у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Выступае ў дыскусіі дэпутат Апазыцыі БНФ  Пётра Садоўскі.



13-14 чэрвеня 1991 г. Вярхоўны Савет. Аб ацэнцы дзеяньняў службовых асобаў у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Выступае дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Папкоў.



13-14 чэрвеня 1991 г. Вярхоўны Савет. Аб ацэнцы дзеяньняў службовых асобаў у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Выступае дэпутат Апазыцыі БНФ Юры Беленькі.



13-14 чэрвеня 1991 г. Вярхоўны Савет. Аб ацэнцы дзеяньняў службовых асобаў у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Выступае дэпутат Апазыцыі БНФ Валенцін Голубеў.



13-14 чэрвеня 1991 г. Вярхоўны Савет. Аб ацэнцы дзеяньняў службовых асобаў у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Выступае дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей  Навумчык.



13-14-чэрвеня 1991 г. Вярхоўны Савет. Аб ацэнцы дзеяньняў службовых асобаў у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Выступае дэпутат Апазыцыі БНФ Галіна Сямдзянава.



13-14-чэрвеня 1991 г. Вярхоўны Савет. Аб ацэнцы дзеяньняў службовых асобаў у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Выступае дэпутат Апазыцыі БНФ Барыс Гюнтар.



Менск. 20 жніўня 1991 г. (Другі дзень камуністычнага путчу ў Маскве.) Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ. Трывожныя абліччы беларусаў.



Менск. 21 жніўня 1991 г. (Трэці дзень камуністычнага путчу ў Маскве.) Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыіі БНФ. Напружаныя аблічча людзей.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.)
Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.) Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ. Выступае «легенда Беларускага Народнага Фронту» рабочая ліцейнага цэха Менскага Трактарнага завода Вера Максімаўна Церлюкевіч.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.) Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ. На пярэднім плане (зьлева направа) дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Папкоў, дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Антончык, сустаршыня Рабочага саюзу і сябра Сойму БНФ Георгій Мухін.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.)
Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.) Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ. Выступае Старшыня дэпутацкай Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Зянон Пазьняк.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.) Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ. Выступае дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Папкоў.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.) Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ. На пярэднім плане Мая Тодараўна Кляшторная.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.) Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ. Выступае дэпутат (каардынатар) Апазыцыі БНФ Сяргей Навумчык.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.)
Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.) Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ. Выступае дэпутат Апазыцыі БНФ Барыс Гюнтар.



Выступае дэпутат (каардынатар) Апазыцыі БНФ Валенцін Голубеў.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.)
Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.) Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ. Зь лева на права: дэпутат Фракцыі БНФ Менскага Гарадзкога Савета Галіна Палачаніна і сябра БНФ Галіна Казлова.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.)
Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ.
Дэпутат Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Юры Беленькі.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.) Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ. На пярэднім плане зь лева на права: дэпутат Апазыцыі БНФ Барыс Гюнтар, дэпутат Апазыцыі БНФ Пётра Садоўскі, сябра БНФ намесьнік Старшыні Менскага Гарадзкога савета Анатоль Гурыновіч.




Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.)
Мітынг на плошчы ля Вярхоўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ.
Дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Антончык дае інтэрв'ю.



**Гэты здымак быў зроблены 20 жніўня ў Менску на ст. Радыятарная. Адкуль і зь якой мэтаю прыгналі сюды восем вагонаў —"закаў", зробленых, відавочна, насьпех? Цікава таксама, што праз два дні краты з вагонаў пачалі зразаць.**




Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.) Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ. Вулічная сатырычная творчасьць.



Менск. 22 жніўня 1991 г. (Апошні дзень ГКЧП – камуністычнага путчу ў Маскве.) Мітынг на плошчы ля Вярхўнага Савета, скліканы дэпутатамі Апазыцыі БНФ. На пярэднім плане зь лева на права: дэпутаты Апазыцыі БНФ – Валенцін Голубеў, Сяргей Навумчык, Юры Беленькі.



Жнівень 1991 г. Дэпутаты Апазыцыі БНФ. Начная праца.



Жнівень 1991 г.  Дэпутаты Апазыцыі БНФ. Начная праца. Падрыхтоўка да Сэсіі.




1991 г. 24-га жніўня. Пачатак Сэсіі Незалежнасьці. Прамаўляе Зянон Пазьняк.
Побач Валенцін Голубеў і Вольга Галубовіч са Сьцягам.




Дэбаты. Стаяць: Генадзь Маісееў (Дэмклуб) і Сяргей Навумчык (БНФ).



Дэпутат Лявон Баршчэўскі (Апазыцыя БНФ).



1991г. Жнівень. 5-я Нечарговая Сэсія Вярхоўнага Савета. Дэпутаты Апазыцыі БНФ праганяюць з трыбуны 1-га Сакратара ЦК КПБ Анатоля Малафеева (які падтрымліваў ГКЧП).



Складанае становішча. Старшыня дэпутацкай Апазыцыі БНФ Зянон Пазьняк.



Прамаўляе дэпутат Апазыцыі БНФ Юры Беленькі.



Прамаўляе дэпутат Апазыцыі БНФ Валенцін Голубеў.

# ДЭПУТАТЫ АПАЗЫЦЫІ БНФ



*D-6 Аксаміт Мікалай Уладзімеравіч*



*D-7 Алампіеў Віктар Пятровіч*



*D-8 Антончык Сяргей Антонавіч*



*D-9 Баршчэўскі Лявон Пятровіч*



*D-10 Беленькі Юры Адамавіч*



*D-11 Галубовіч Вольга Мікалаеўна*



*D-12 Германчук Ігар Іванавіч*



*D-13 Голубеў Валянцін Фёдаравіч*



*D-14 Грушавы Генадзь Уладзімеравіч*


D-15 Гюнтар Барыс Давідавіч


D-16 Дзейка Леанід Іванавіч


D-17 Заблоцкі Уладзімер Мікалаевіч


D-18 Зданевіч Лявонці Ульянавіч


D-19 Какоўка Віктар Фёдаравіч


D-20 Крыжаноўскі Мікалай Кірылавіч


D-21 Малашка Віталь Аляксеевіч


D-22 Маркевіч Мікалай Мікалаевіч


D-23 Навумчык Сяргей Іосіфавіч



*D-24 Пазьняк Зянон Станіслававіч*



*D-25 Папкоў Сяргей Пятровіч*



*D-26 Пырх Ігар Іванавіч*



*D-27 Садоўскі Пётра Вікенцьевіч*



*D-28 Слабчанка Сяргей Іванавіч*



*D-29 Сямдзянава Галіна Георгіеўна*



*D-30 Трусаў Алег Анатольевіч*



*D-31 Холад Павел Ігнатавіч*



*D-32 Шут Аляксандар Аляксандравіч*

*ДЭПУТАТЫ АПАЗЫЦЫІ БНФ У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ XII СКЛІКАНЬНЯ (1990 – 9.01.1996.). Здымкі дэпутатаў зробленыя вясной 1990 года. Рэпрадукцыі з даведніка „НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. ДВАНАЦЦАТАЕ СКЛІКАНЬНЕ". – МІНСК, „БЕЛАРУСЬ", 1992.*

# ПЛОШЧА




Менск 24-25 жніўня 1991 г.  Вулічная самадзейнасьць (расьцяжка): «За нашу вольную Беларусь».




Менск 24-25 жніўня 1991 г. Людзі на плошчы.




Менск 24-25 жніўня 1991 г.  Людзі на плошчы.



Менск 24-25 жніўня 1991 г.  Плошча. У перапынках Сэсіі выступае Старшыня дэпутацкай  Апазыцыі БНФ Зянон Пазьняк.



Менск 24-25 жніўня 1991 г.  Людзі на плошчы. Рэзалюцыі і звароты.



Менск 24-25 жніўня 1991 г.  Людзі на плошчы. Размовы і дэбаты.



Менск 24-25 жніўня 1991 г.  Людзі на плошчы. Наладка апаратуры.



Менск 24-25 жніўня 1991 г.  Людзі на плошчы. Падрыхтоўка лёзунгаў.



Менск 24-25 жніўня 1991 г. Плошча. Выступае дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Антончык.



Менск 24-25 жніўня 1991 г. Людзі на плошчы. Перапынак




Менск 24-25 жніўня 1991 г. Вулічная самадзейнасьць (расьцяжка) – чорныя літары «**КПБ**», перакрэсьленыя накрыж чырвонай стужкай.



Менск 24-25 жніўня 1991 г. Людзі на плошчы. Перакус гарбузамі.



Менск 24-25 жніўня 1991 г. Хлопчык са Сьцягам.

## ЛЁЗУНГІ, АБ'ЯВЫ









Перыфраза з бальшавіцка-расейскай песьні «Партия наш рулевой».


ЗДРАДНІКІ, ВОН
З ПАРЛАМЕНТА!


Людзі, мае людзі!
Чагож Вы нарабілі
Здраднікаў
на шыю
Сабе пасадзілі.




Вакно інфармацыі.









25 жнівень 1991 г.  Аб'ява на дзьвярах апячатанага будынку ЦК КПБ.

# ВОЛЬНАЯ ВУЛІЦА



Менск. Галоўны праспэкт.



Менск. Галоўны праспэкт.




25 жнівень 1991 г.  Дэпутаты Апазыцыі БНФ і журналісты ля апячатанага будынка ЦК КПБ.



Абуджаны падзеямі чалавек, прышоў да апячатанага будынка ЦК КПБ  прагматычна з двумя сьцягамі – беларускім і акупацыйным бээсэсэраўскім (на ўсялякі выпадак).




Менск. 25 жнівень 1991 г. Моладзевыя забаўкі – «Пахаваньне Славы Капээсэс».



Менск. 25 жнівень 1991 г. Моладзевыя забаўкі – «Пахаваньне Славы Капэсэс».

# ДАКУМАНТЫ



ПУТЧ

19. VIII. 91.
10 30

З В А Р О Т

да СтаршынI Вярхоунага САвета БССР М.I. Дземянцея

I ПрэзIдыума Вярхоунага Савета БССР

Сёння усяму свету зразумела, што групай службовых асоб у Маскве здзейснена ваенна-наменклатурная змова супроць законна выбранай дзяржаунай улады як у СССР, так I у саюзных рэспублIках. ПазIцыя чакання, занятая ВамI, з"яуляецца фактычным пасобнIцтвам дзеянням дзяржауных злачынцаў, якIя арганIзавалI антыканстытуцыйны пераварот I Iмкнуцца ўсталяваць у краIне рэжым ваеннай дыктатуры.

Мы вымушаны папярэдзIць Вас аб тым, што адмова ад неадкладнага склIкання нечарговай сесII Вярхоунага Савета БССР, ухIленне ад рашучага асуджэння путча, замаруджванне з афIцыйнай заявай аб супрацьзаконнасцI усIх рашэнняу I ўказау так званага Дзяржаўнага камIтэту па надзвычайнаму становIшчу на тэрыторыI Беларускай ССР з"яўляецца па сутнасцI садзеяннем у злачынстве.

БеларускI народ добра памятае жудасныя злачынствы сталIнскай дыктатуры I не даруе патурання тым, хто зноу Iмкнецца растаптаць яго суверэнIтэт I свабоду.

Народныя дэпутаты БССР:

З. Пазьняк – 9-я акруга
В. Голубеў, 15-я акруга
С. Навумчык, 181-я акруга
Г. Грушавы 41-я акруга
Л. Здановіч 33-я акруга
Станкевіч 78 я
Ю. Беленькі 36 я
Б. Зайнін 124
А. Мукалаў 94
І. Шут 66 я
Я. Новікаў 13 я

Дэпутаты Апазыцыі БНФ папярэджваюць М. Дзямянцея аб адказнасьці за падтрымку ГКЧП.



ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСЬ

220600, Мінск, праспект Машэрава, II
Тэл. (0172) 23 87 42.
Факс (0172) 23 87 31

23.08.91 / 455

Пятай нечарговай сесіі
Вярхоўнага Савета БССР,
дэпутатам ад нашых акруг
Голубеву, Зданевічу, Канаплі,
Паўлаву, Шушкевічу

Супрацоўнікі выдавецтва "Беларусь" вітаюць дзейнасць членаў дэпутацкай апазіцыі БНФ і ўсіх тых сумленных дэпутатаў, якія ў дні антыдзяржаўнага перавароту адстойвалі Канстытуцыю і свабоду.

Мы патрабуем прыцягнення да адказнасці калабрацыяністаў -- старшыню Вярхоўнага Савета БССР Дземянцея, тых членаў прэзідыума, якія не адмежаваліся, а фактычна падтрымалі путчыстаў, а таксама ўрада Беларусі, іншых службовых і афіцыйных асобаў, кіраўніцтва ЦК КПБ, якія сталі на шлях здрадніцтва.

Патрабуем неадкладнай дэпартызацыі ўсіх дзяржаўных устаноў, прадпрыемстваў, КДБ, МУС, арміі, нацыяналізацыі маёмасці КПСС--КПБ.

По даручэнню сходу

В. Дубоўскі, дырэктар
А. Лукашук, галоўны рэдактар
А. Вячорка, вядучы рэдактар

23 жніўня 1991 г.

Верна. А. Лукашук



Ліст калектыва выдавецтва «Беларусь» у Вярхоўны Савет з падтрымкай дэпутацкай Апазыцыі БНФ; датаваны 23 жніўня 1991 г.

# ЗВАРОТ

**народных дэпутатаў ад апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларускай ССР**

Дарагія суайчыннікі, людзі Беларусі!

Тры гады, з пачатку руху Народнага Фронту, мы мэтанакіравана ішлі да свабоды і суверэнітэту. І вось за тры дні ганебна развалілася бальшавіцкая імперыя КПСС. Няма больш чырвонага монстра і адыходзіць у нябыт камуністычны кашмар.

Наперадзе вялікая праца па замацаванню нашай свабоды і незалежнасці, па будаўніцтву вольнай Беларусі. Заклікаем усіх людзей рэспублікі да стваральных дзеянняў. Падтрымлівайце законы і пастановы, прынятыя на пятай надзвычайнай сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Падтрымлівайце дэпутатаў апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, стварайце суполкі Народнага Фронту, змагайцеся за волю і дэмакратыю.

Трэба неадкладна ажыццявіць дэпартызацыю нашага працоўнага жыцця. Закрывайце, распускайце : выводзьце парткамы і партыйныя арганізацыі злачыннай КПБ—КПСС і ЛКСМБ. Дапамагайце органам улады апячатваць і ахоўваць будынкі, архівы, гаражы, установы — усю нарабаваную маёмасць КПБ—КПСС і ЛКСМБ, бо гэта ўласнасць народа, ажыццяўляйце грамадскі кантроль за ходам дэпартызацыі, апячатвання і аховы маёмасці, закрыцця банкаўскіх рахункаў, стварайце дзеля гэтага грамадскія пікеты і патрулі.

Усе сумленныя людзі, што тым ці іншым спосабам апынуліся ў КПБ—КПСС і ЛКСМБ, — пакідайце гэтыя антынародныя арганізацыі, выходзьце з іх — вы свабодныя. Уключайцеся ў дэмакратычны працэс, у рух адраджэння вольнай суверэннай Беларусі. У нашай культурнай, памяркоўнай дэмакратычнай Бацькаўшчыне ніхто не павінен і не будзе праследаваць чалавека толькі за членства ў камуністычнай партыі ці камсамоле.

Што гэта так — пацвярджае палітыка Беларускага Народнага Фронту за ўсе гады змагання. Дарога ў народны рух заўсёды адчынена. Набліжайма ж нашу вольную будучыню, абаронім яе, адбудуем і засперажом!

Жыве Беларусь!

**Народныя дэпутаты апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце БССР:**

**З. Пазьняк, Г. Сямдзянава, С. Навумчык, А. Трусаў, І. Гермянчук, В. Галубовіч, Ю. Беленькі, У. Станкевіч, Б. Гюнтэр, А. Сасноў, Я. Новікаў, У. Заблоцкі, С. Слабчанка, В. Зяленін, У. Новік, В. Голубеў.**

**1991 год.**
**25 жніўня.**
**20 г. 08 мін.**

# БЕЛАРУСЬ НЕЗАЛЕЖНАЯ!

**ЗВЯЗДА**

*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*



27 жніўня 1991 г.
АЎТОРАК
№ 167 [21695]
Цана 10 кап.

## НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ— ПРАРЫЎ У БУДУЧЫНЮ

З нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР

## ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

Раніцай у мінулы аўторак, 20 жніўня, калі верхаводы дзяржаўнага перавароту патрабавалі поўнай падпарадкаванасці сабе, калі бюро ЦК КПБ на сваім пасяджэнні прымала заяву са згодніцкай пазіцыяй у адносінах да путчыстаў, у рэдакцыі нараджаліся радкі, якія былі надрукаваны 21 жніўня: «Думаем, што ў КПСС зараз, відаць, апошні шанц вярнуць сабе аўтарытэт, адмежаваўшыся ад ДКНС. У выпадку ж, калі яна гэтага не зробіць і тым больш заклікае да падпарадкавання яму, фінал яе, прама скажам, будзе сумны. З гісторыі ведаем, што бывае з партыямі, якія падтрымліваюць незаконныя захоп улады».

Папярэджанне рэдакцыі збылося: Вярхоўны Савет БССР на сваёй нечарговай сесіі прыпыніў дзейнасць КПБ.

Калектыў рэдакцыі на сваім сходзе, які адбыўся раніцай 26 жніўня, вырашыў зрабіць усё магчымае, каб захаваць адзіную штодзённую беларускамоўную газету. Журналісты «Звязды» пастараюцца рабіць газету, дастойную вольнай Беларусі. Мы спадзяёмся, што афіцыйныя структуры суверэннай дзяржавы не дадуць загінуць нацыянальнай газеце.

**У рэдакцыю газеты «Звязда»**

П Р А П А Н О В Ы

Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце БССР
аб парадку дня нечарговай 6-й сесіі
Вярхоўнага Савета БССР 12-га верасьня
1991 г.

Апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце БССР прапануе пачаць сесію 12-га верасьня 1991 г. у сувязі з рашэньнямі, прынятымі на нечарговым У зьезьдзе народных дэпутатаў СССР, якія маюць непасрэднае дачыненьне да палітычнай будучыні Беларусі.

Прапануецца ўключыць у парадак дня наступныя пытаньні:

1. Праект пастановы Аб назве Рэспублікі.

2. Праект пастановы Аб дзяржаўна-нацыянальным сьцягу Беларускай ССР.

3. Праект пастановы Аб дзяржаўным гербе Беларускай ССР.

4. Аб падпарадкаваньні мытнай службы.

5. Праект Закона Аб грамадзянстве Беларускай ССР.

6. Аб Генеральным пракуроры Беларускай ССР.

7. Аб сістэме абароны і нацыянальнай бясьпекі Беларускай ССР

а/ аб стварэньні дзяржаўнай сістэмы абароны і нацыянальнай бясьпекі Беларускай ССР

б/ аб Ваенным міністры Беларускай ССР

в/ аб стварэньні Беларускага Войска

г/ Пастанова Аб рэспубліканскай гвардыі Беларускай ССР

д/ аб падпарадкаваньні ваенных камісарыятаў і падраздзяленьняў Грамадзянскай абароны на тэрыторыі Беларускай ССР

е/ аб ДТСААФ БССР

ё/ аб дзяржаўнай мяжы Беларускай ССР і стварэньні Корпуса Памежнай Варты

ж/ аб парадку праходжаньня вайсковай службы грамадзянамі Беларускай ССР



Прапановы і праекты дэпутатаў Апазыцыі БНФ ў Парадак дня першай Сэсіі Вярхоўнага Савета ў незалежнай Беларусі (6-я нечарговая). (Два лісты).

з/ аб статусе кантынгента Узброеных Сілаў СССР на тэрыторыі Беларускай ССР

і/ Зварот да вайскоўцаў Беларускай ваеннай акругі

к/ заява пра абаронную палітыку Беларусі

л/ аб прысязе службовых асобаў і асабовага складу Узброеных сілаў Беларускай ССР і Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі Беларускай ССР

м/ аб падпарадкаваньні ваеннай Пракуратуры Чырвонасьцяжнай Беларускай ваеннай акругі

н/ аб Галоўным ваенным камісары

о/ аб Камандуючым Рэспубліканскай Гвардыяй

п/ аб Галоўным Ваенным Радцы /Саветніку/ Старшыні Вярхоўнага Савета /Прэзідэнта/ Беларускай ССР па ваенных пытаньнях і нацыянальнай бясьпецы.

8. Аб прызнаньні права прыватнай уласнасьці на зямлю ў Беларускай ССР і ўнясеньні зьменаў у заканадаўства Беларускай ССР.

9. Аб роспуску структураў КПСС—КПБ і пераводзе ў дзяржаўную ўласнасць яе маёмасьці на тэрыторыі Беларускай ССР.

І0. Аб дэнансацыі Саюзнага дагавору І922 г.

ІІ. Аб стварэньні парламенцкіх груп для распрацоўкі канцэпцый узаемаадносін і вядзеньня перамоў з рэспублікамі, якія сталі на шлях дзяржаўнай незалежнасьці.

І2. Аб знешнепалітычнай дзейнасьці [redacted] Беларускай ССР.

ІЗ. Аб стварэньні інфармацыйна-вяшчальнага цэнтра пры Вярхоўным Савеце Рэспублікі.

І4. Аб вяртаньні гістарычнай назвы сталіцы Рэспублікі — горада Мінска.

І5. Аб Старшыні Савета Міністраў і членах урада Беларускай ССР.

І6. Папраўкі ў Канстытуцыйны закон — Дэкларацыю аб Дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР.

Старшыня Апазіцыі БНФ у Вярх. Савеце БССР З. Пазьняк

450-4007
16.09.91г.



Прапановы і праекты дэпутатаў Апазыцыі БНФ ў Парадак дня першай Сэсіі Вярхоўнага Савета ў незалежнай Беларусі (6-я нечарговая). (Два лісты).

Праект
Унесен Прэзідыумам
Вярхоўнага Савета БССР

ПАСТАНОВА

ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

Аб павестцы дня нечарговай пятай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі п а с т а н а ў л я е:

Уключыць у павестку дня нечарговай пятай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання наступныя пытанні:

I. Аб бягучым моманце.

2. Аб Саюзным дагаворы.

Старшыня Вярхоўнага
Савета Беларускай ССР

Прапанова аб Парадку дня Сэсіі Незалежнасьці, прыдуманая савецкім Прэзыдыюмам Вярхоўнага Савета. Прапанова, якую да канца падтрымліваў і прабіваў на Сэсіі С. Шушкевіч.



Вольныя людзі.

# Уладзімер Паўлавіч Кармілкін



**Уладзімер Паўлавіч Кмармілкін** (фота -- студзень 1991 года) -- фоталетапісец Беларускага Народнага Фронту ў 1990-х гадах. У. Кармілкін здымаў на стужкавую фотакамэру і запісваў на магнітафонную стужку практычна ўсе мітынгі, паседжаньні Соймаў і Зьездаў Беларускага Народнага Фронту.

Кармілкін быў апантаным франтаўцам і фотааматарам, энтузіястам фатаграфічнага рэпартажу. Ён здымаў шмат і ўсё падрад, жывыя падзеі, часта ня дбаючы пра пабудову кадра, а думаючы, каб толькі "ўхапіць" падзею, дзеяньне, карціну рэчаіснасьці.

Мінула 20-25 гадоў. Ўсё, што здымаў Кармілкін, стала ўжо гісторыяй. І вось тут выявілася, што ягоны аматарскі мэтад аказаўся нашмат больш каштоўным для гісторыі, чым правільна выбудаваныя рэпарцёрскія фатаграфіі, што запаланялі газэты таго часу. Ягоныя фатаграфіі болш жывыя, больш інфарматыўныя і лепш перадаюць дух часу, якраз дзякуючы

сваёй "непрычасанасьці", наяўнасьці ў кадрах мноства пабочных (другарадных на той час) дэталяў. Але яны якраз і ствараюць асаблівасьць выявы, перадаюць яе з усім навакольлем, якое цікава разглядаць, занурваючыся ў той дзівосны час. Яны перадаюць пачуцьцё, дыханьне вуліцы і плошчы, вобразы тагачасных вольных людзей, што праглі свабоды і незалежнасьці краіны.

Уладзімер Кармілкін быў вельмі прыязным дабрадушным і сумленным чалавекам. Па паходжаньні ён смаленскі беларус, якога ў Расеі запісалі "рускім". Ён сабраў надзвычайны і велізарны фота-аўдыё архіў беларускага Адраджэньня 90-х гадоў мінулага стагоддзя. У другой палове 90-х, ужо адчуваючы нешта нядобрае, ён паведаміў мне, што ўвесь свой архіў ахвяруе мне і Васілю Быкаву. Гэта значыць, што пасьля ягонай сьмерці (якая ня дай Бог нечакана наступіла б) лёсам архіву павінны былі распараджацца мы з Быкавым. Пра гэта ведаў таксама Рыгор Барадулін, які паспрыяў таму што архіў быў вывезены зь Менску ў надзейнае месца і там знаходзіўся.

Я задумваўся аб больш надзейным пераазахаваньні архіву і неўзабаве перад сьмерцю Кармілкіна, паслаў пра тое (праз надзейныя рукі) ліст Рыгору Барадуліну. У гэты час пры загадкавых абставінах памірае Уладзімер Кармілкін. Інфармацыя ад Барадуліна была ашаламляльная. Аказваецца, што перад самай сьмерцю Кармілкін прыехаў з яшчэ адным, ужо праз Барадуліна пасьвечаным у таямніцу чалавекам, і забралі той архіў. Кармілкін раптам памірае і лёс архіву невядомы.

Тым часам на працягу 2000-х гадоў матэрыялы Кармілкіна раптам ўзьнікаюць у розных месцах, зборах і выданьнях. Найблольш ў Сеціве. Тут адказ можа быць такі, што ГэБэ захапіла ня ўвесь архіў. Кармілкін, напрыклад, рабіў шмат фатаграфіяў, копіяў з аўдыё-стужак і раздаваў вядомым людзям (дзівосная была асоба). Такім чынам ў мяне знайшлося мноства копіяў яго аўдыёкасэт, якія ён мне перадаваў неаднаразова, шмат фатаграфіяў і нават нэгатываў. Ёсьць некаторыя матэрыялы і ў пэўных грамадзкіх ды палітычных архівах (не называю, бо акупацыйны рэжым). Шчодрасьць вялікая цнота, пацьвярджэньне мудрасьці: "што аддаў -- тое тваё".

Ілюстрацыйная частка гэтага выданьня, практычна, цалкам пабудавана на фатаграфіях Уладзімера Кармілкіна.

*Зянон Пазьняк*

## КНІГІ ВЫДАДЗЕНЫЯ Ў ВЫДАНЬНІ «БЕЛАРУСКІЯ ВЕДАМАСЬЦІ» І БВТА

1. Зянон Пазьняк. Камунізм як форма рускага імпэрыялізму. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2000 г.
2. Зянон Пазьняк. Новае стагоддзе. -- Варшава, 2002 г.
3. Зянон Пазьняк. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. -- Варшава, 2003 г.
4. Зянон. Вялікае Княства. -- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2005 г.
5. Зянон. Вялікае Княства (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
6. Зянон. Беларуска-Расейская вайна. Belarus is easten outpost. -- Варшава, 2005 г.
7. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі. -- Нью- Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2005 г.
8. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
9. Сяргей Навумчык. Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988 – 1995). -- Варшава, 2006 г.
10. Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы. -- Варшава, 2007 г.
11. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, 2007 г. (Містыфікацыя. Выдадзена ў Беларусі, 1/16 д.а., 60 с.).
12. Зянон. Дарога. -- Варшава, 2007 г.
12. Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 1, артыкулы і матэр'ялы (1990—III.1996). -- Варшава, 2007 г.
14. Парсіваль (2-е выданьне). -- Варшава, 2009 г.
15. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, 2009 г. (1/32 д.а., 192 с.)
16. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 2, артыкулы і матэр'ялы (IV.1996—2002). -- Варшава, 2010 г.

**17. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Працяг. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 3, артыкулы і матэр'ялы (2003--2010). -- Варшава, 2010 г.**

**18. Сяргей Навумчык – Зянон Пазьняк. Дэпутаты Незалежнасьці. -- Варшава, 2010 г.**

**19. Зянон Пазьняк. Дэкларацыя – першы крок да Незалежнасьці. -- Варшава, 2010 г.**

**20. Зянон Пазьняк. Сэсія Незалежнасьці. -- Варшава, 2011 г.**

**21. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў. -- Варшава, 2011 г.**

**22. Зянон Пазьняк, Валеры Буйвал. Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял. -- Варшава, 2012 г.**

**23. Зянон Пазьняк. Добрая фатаграфія. -- Варшава, 2012 г.**

**24. Галіна Пазьняк. Менскі гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі (1990-1991). -- Варшава, 2012 г.**

**25. Зянон. Тэрра Дэй. -- Варшава, 2014 г.**

**26. Zenon. OJCZYZNA WIECZNA. -- Warszawa, 2014.**

**27. Аўген Калубовіч. Мова ў гісторыі Беларускага пісьменства. (Факсімільнае выданьне. Прадмова да факсіміле – Зянон Пазьняк). -- Варшава «Беларускія Ведамасьці», 2015 г.**

**28. Зянон.Палын-палын…-- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.**

**29. Зянон Пазьняк. НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.,**

**ISBN: 978-83-935476-6-1**

Пазьняк Зянон Станіслававіч
*Кандыдат мастацтвазнаўства*

НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ
(Да 25-годдзя Незалежнасьці Беларусі)

*Грамадзка-палітычная літаратура*

**Зянон Пазьняк. НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ (Да 25-годдзя Незалежнасьці Беларусі).** У кнізе апавядаецца аб дасягненьні дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі ў 1991 годзе, аб каштоўнасьцях незалежнай дзяржавы і аб абставінах у сьвеце, якія павінна ўлічваць будучая вольная Беларусь. (У дадатку кнігі выкарыстаныя новыя і апублікаваныя раней фатаграфіі і дакуманты.)

Выданьне: "Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Амэрыцы", Нью-Ёрк, 2016 г. -- 114 с., іл. Папера афсэтная (фармат: US Trade 6x9 in). Наклад 200 ас.
ISBN: 978-83-935476-6-1

Афармленьне вокладкі і макет: *Зянон Пазьняк.*
Кампутарны склад: *Зянон Пазьняк.*
Кампутарны набор і вычытка тэксту: *Галіна Палачаніна.*
Друк: *www.lulu.com*
Наклад: 200 асобнікаў.
Аддрукавана: у жніўні 2016 г. у Нью-Ёрку.
Папера афсэтная, фармат US Trade 6x9 in.
Ум. друк. арк. 9.
Аддрукавана на сродкі аўтара

---------------------------------------------------------------------------
Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Амэрыцы. Нью-Ёрк.